ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№12 (69) снежань 2016 год

CATHOLICNEWS.BY

# Каляднае віншаванне Біскупа Віцебскага Алега Буткевіча



*"Хвала на вышынях Богу,
а на зямлі супакой людзям добрай волі!"*

Гэтым спевам Анёлаў была абвешчана радасная навіна пра нараджэнне ў горадзе Давідавым Бэтлееме Божага Сына. Кожную нядзелю святы Касцёл паўтарае гэты гімн, нагадваючы свету праўду аб прысутнасці Бога на зямлі. "Слова сталася Целам і пасялілася між намі..." (Ян 1, 14). Яно нясе свету радасць даравальнай Божай Любові, якая ніколі не пакідае чалавека. Мы пакліканыя прыняць яе ў сваё жыццё і навучыцца дзяліцца ёю з іншымі, такім чынам заносячы святло Бэтлеемскай зоркі тым, хто знаходзіцца яшчэ ў змроку нянавісці, недаверу, самоты, безнадзейнасці.

Свята Божага Нараджэння – гэта асаблівы час, калі мы прыгадваем, што зямля не проста прымае Божага Пасланніка, але становіцца Яго жытлом ужо назаўсёды. У такім "суседстве" не можа чалавек адчуваць сябе самотным і пакінутым, ён не павінен планаваць злачынства і крыўды. Аднак гэтае "суседства" становіцца адчувальным толькі праз тых, хто па прыкладзе Дзевы Марыі згаджаецца на Божую волю, прымаючы шчырым сэрцам Добрую Вестку.

Няхай Божае Нараджэнне прынясе нам так патрэбны спакой і духоўную сілу, каб зло, якое існуе ў свеце, не знаходзіла больш месца у сэрцах людзей. Бо іх сэрцы прызначаныя быць утульнай калыскай для Збаўцы, Каторы прыходзіць у гэты свет. А прынесеныя Ім бласлаўленне і ласка няхай будуць крыніцай радасці і трывалай надзеі!

**Са Святам Божага Нараджэння!**

**+Алег Буткевіч,**
**Біскуп Віцебскі**

## Гісторыя аднаго паклікання



Стар. 8

## Чаму Касцёл супраць in vitro?



Стар. 4

## Жыццёвы шлях місіянера



Стар. 5

# Фотафакт: Папу Францішку споўнілася 80!






# Апостальскі нунцый лічыць прыярытэтнай задачай арганізацыю візіту Папы Рымскага ў Беларусь

**Апостальскі нунцый у Беларусі Габар Пінтэр лічыць прыярытэтнай задачай арганізацыю візіту Папы Рымскага ў Беларусь. Пра гэта ён заявіў 13 снежня, адказваючы на пытанні журналістаў перад цырымоніяй уручэння даверчых грамат Прэзідэнту Беларусі.**

"Для мяне гэта прыярытэтная задача. Мы будзем працаваць над арганізацыяй візіту Папы Рымскага ў Беларусь, але пакуль не магу нічога сказаць адносна тэрмінаў і праграмы", – адзначыў нунцый.

Ён падкрэсліў, што вельмі аптымістычна глядзіць на перспектывы развіцця адносінаў паміж Ватыканам і Беларуссю, паведамляе БелТА.

Нунцый знаходзіцца ў нашай краіне каля чатырох месяцаў. Ён расказаў, што за гэты час пазнаёміўся з многімі беларусамі.

"Беларусы вельмі міралюбівыя, і гэта тая нацыя, якая імкнецца да міру з усімі краінамі, у тым ліку са сваімі суседзямі", – падкрэсліў прадстаўнік Ватыкана. Паводле яго слоў, названыя мэты супадаюць з асноўнымі задачамі, якія ставіць перад сабой Ватыкан.

# Каталіцкі святар з Іспаніі прэтэндуе на ўдзел у "Еўрабачанні-2017"



**Каталіцкія вернікі працягваюць радаваць сваімі талентамі і ўдзельнічаць у папулярных свецкіх конкурсах. Так, удзельнікам "Еўрабачання-2017" можа стаць малады святар Даміян. Ён сярод прэтэндэнтаў, каб прадставіць на конкурсе Іспанію, паведамляе katolik-gomel.by.**

Святара пад сцэнічным імем Padre Damián ужо палюбілі ў Іспаніі пасля яго выступу ў нацыянальнай версіі шоу "Голас". А зараз ён удзельнічае ў адборы на "Еўрабачанне" з песняй "Тысяча сонцаў". Паколькі Іспанія ўваходзіць у лік арганізатараў папулярнага песеннага конкурсу, яе прадстаўнік аўтаматычна трапляе ў фінал. Іспанія вызначыць свайго ўдзельніка "Еўрабачання" ў сакавіку 2017 года, а сам конкурс пройдзе ў маі ва Украіне.

Нагадаем, у 2015 годзе на ўдзел у "Еўрабачанні" прэтэндавалі манахіні з Мальты.

# "Святой Себастьян" Леонардо да Винчи найден в Париже

**В Париже нашли ранее неизвестный рисунок Леонардо да Винчи. Картинку, на которой изображен святой Себастьян, привязанный к дереву, оценили в 15 млн. долларов.**



Рисунок нашли совершенно случайно: врач-пенсионер приехал в Париж, чтобы показать экспертам аукциона несколько произведений искусства из коллекции его отца. Среди картинок неожиданно оказалась работа мастера эпохи Возрождения, датированная 1482-1485 гг. Предположительно, этот набросок Леонардо сделал в процессе работы над картиной, впоследствии утерянной, сообщает мировая пресса.

Святой Себастьян (лат. Sebastianus; ок. 256, Нарбон – 288, Рим) – римский легионер, христианский святой, почитаемый как мученик. Согласно жизнеописанию святого, Себастьян был начальником преторианской гвардии при императорах Диоклетиане и Максимиане. Он тайно исповедовал христианство, что обнаружилось, когда двое его друзей были осуждены на смерть за свою веру. Себастьян пришел поддержать осужденных, и его речь вдохновила братьев и убедила их сохранить верность христианству. Слышавшие его увидели семь ангелов и Юношу, который благословил Себастьяна и сказал: "Ты всегда будешь со Мною". Себастьян был арестован и допрошен, после чего император Диоклетиан приказал отвести его за город, привязать и пронзить стрелами.

Думая, что он мертв, палачи оставили его лежать одного, однако ни один из его жизненно важных органов, по-видимому, не был поврежден стрелами, и его раны, хоть и глубокие, не были смертельными. Вдова по имени Ирина пришла ночью, чтобы похоронить его, но обнаружила, что он жив, и выходила мужа.

Многие христиане уговаривали Себастьяна бежать из Рима, но он отказался и предстал перед императором с новым доказательством своей веры. На сей раз по приказу Диоклетиана он был забит камнями до смерти, а тело его сбросили в Большую Клоаку. Святой явился во сне христианке Лукине и велел ей забрать его тело и похоронить в катакомбах. Женщина выполнила это повеление.

Мощи св. Себастьяна находятся в базилике св. Себастьяна, стоящей на катакомбах его имени в Риме. Католическая церковь чтит святого Себастьяна 20 января.

*katolik-gomel.by*

# Біскуп Алег Буткевіч:
# Візіт Папы ў бліжэйшы час цалкам магчымы



**Пра гэта кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч заявіў падчас традыцыйнай перадкаляднай прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў аўторак, 20 снежня.**

**Зміцер Лупач**

У ёй удзельнічалі прадстаўнікі як дзяржаўных, так і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Падчас прэс-канферэнцыі ён распавёў пра справы ў Віцебскай дыяцэзіі, адказаў на пытанні журналістаў.

Адно з пытанняў "Каталіцкага Весніка" тычылася магчымасці візіту ў Беларусь Папы Францішка.

Біскуп Алег у гэтай сувязі адзначыў, што гэта пытанне застаецца вельмі важным і актуальным для Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, бо Беларусь побач з Расіяй засталіся адзінымі еўрапейскім краінамі, у якія ні разу не адбываўся візіт Пантыфіка.

Але апошнія падзеі, якія адбываюцца ў гэтым накірунку, пакідаюць нам усё больш надзеі, што гэты візіт стане магчымым. У прыватнасці, пра гэта можа сведчыць і заява Апостальскага нунцыя Габара Пінтэра, які з нядаўняга часу працуе ў Беларусі. Ён падкрэсліў, што арганізацыю гэтага візіту лічыць адной са сваіх прыярытэтных задач.

"Таму мы жывём гэтай надзеяй, і, як вернікі, павінны маліцца ў гэтай інтэнцыі, каб Бог гэтай справай пакіраваў", – адзначыў іерарх.

Біскуп таксама распавёў пра стан спраў ва ўсходніх парафіях, пераважна якія ён наведваў з візітацыяй у гэтым годзе. Хаця там пакуль дзейнічаюць невялікія каталіцкія супольнасці, якія ўзніклі адносна нядаўна, – падкрэсліў іерарх, – яны больш дружныя і нагадваюць адзіную сям'ю.

Кіраўнік дыяцэзіі распавёў таксама пра планы будаўніцтва новых храмаў на тэрыторыі дыяцэзіі. Гэта і адраджэнне касцёла святога Антонія ў Віцебску, будаўніцтве новых храмаў у Паставах і новым мікрараёне Віцебска Білева.

Закрануў біскуп і праблему пакліканняў, якая паўстала перад Касцёлам апошнім часам. На сённяшні дзень у семінарыях навучаюцца чатыры клерыкі з Віцебскай дыяцэзіі. Гэтага вядома мала, але іерарх выказаў надзею, што Касцёл вырашыць гэту праблему.

Напрыканцы сустрэчы біскуп паламаўся аплаткам з журналістамі, пажадаў ім творчых поспехаў у будучым годзе.



# II навукова-практычная канферэнцыя "Божае Нараджэнне як феномен агульначалавечай культуры" адбылася ў Віцебску

**Мерапрыемства праходзіла ў канферэнц-зале Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава, у суботу, 17 снежня.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Ірына Апяцёнак**, *фота*

У яе працы прынялі ўдзел святары, выкладчыкі і студэнты ўніверсітэта, навучэнцы Гродзенскай Духоўнай семінарыі і іншыя зацікаўленыя асобы. Дзяржаўную ўладу прадстаўляў Сяргей Мікалаевіч Фадзеенкаў, галоўны спецыяліст аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцей Віцебскага аблвыканкама.

На канферэнцыю было заяўлена 13 дакладаў, па матэрыялах якіх была падрыхтаваная брашура.

Вядучым мерапрыемства быў канцлер Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч, які напачатку прывітаў усіх удзельнікаў.

Потым слова для прывітання было прадастаўлена прадстаўніку Віцебскага аблвыканкама Сяргею Фадзеенкаву.

У сваім выступе ён не толькі прывітаў удзельнікаў канферэнцыі, але і прывёў цікавыя вынікі аднаго з даследаванняў, праведзеным яго ведамствам. У людзей пыталіся, якія асацыяцыі ў іх звязаныя з Раством. І большасць апытаных згадвалі Дзеда Мароза, Снягурку, Санта Клаўса, ёлку, і толькі 1% апытаных звязалі гэта з Езусам Хрыстом. Гэта гаворыць аб тым, што свята Божага Нараджэння ўсё больш камерцыялізуецца і губляе свой духоўны сэнс.

Таму правядзенне такіх мерапрыемстваў павінна спрыяць разуменню грамадствам сапраўдных сэнсу і значэння свята.

Тыя шэсць дакладаў, якія былі агучаны на канферэнцыі, якраз гэта і даказалі.

Першай свой даклад прачытала прадстаўнік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі і сусветнай культуры Кацярына Лаўрыненка. Тэма яе даклада называлася "Святкаванне Божага Нараджэння паводле дакументаў упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў".

Такі орган дзейнічаў у былым Савецкім Саюзе. Яго мэтай было не толькі аналізаваць стан спраў у рэлігійнай сферы, але і перашкаджаць вернікам выконваць рэлігійныя культы.

Напрыканцы свайго дакладу Кацярына Лаўрыненка заклікала прысутных памятаць пра той пераслед веры і вернікаў, які чыніўся за камуністычным часам, каб не дапусціць падобных дзеянняў у будучыні.

Другім свой даклад "Адвэнт як перыяд падрыхтоўкі да святаў Божага Нараджэння ў літургічным годзе Каталіцкага Касцёла" прадставіў ксёндз Андрэй Лішко, які з'яўляецца выкладчыкам Духоўнай семінарыі ў Гродне.

Гэты выступ быў прысвечаны перыяду падрыхтоўкі да святаў Божага Нараджэння, які ў Каталіцкім Касцёле называецца Адвэнт. У выступе дакладчык прааналізаваў гісторыю ўзнікнення Адвэнту, ахарактарызаваў яго асноўныя значэнні.

Даклад канцлера Віцебскай дыяцэзіі ксяндза Віктара Місевіча быў прысвечаны трактоўцы святкавання Божага Нараджэння ў кананічным праве.

Ён адзначыў, што сярод усіх хрысціянскіх канфесій толькі Каталіцкі Касцёл мае свой Кодэкс, у які зведзены ўсе прававыя касцельныя нормы.

Дакладчык патлумачыў, што касцельнае права забараняе духоўнай асобе вымагаць у людзей плату за ўдзеленыя сакраманты, усе ахвяраванні павінны быць добраахвотнымі. Таму ў Касцёле няма вызначаных тарыфаў і таксаў за ўдзеленыя святаром сакраманты.

Наталля Мізярска, якая вучыцца на 6-м курсе гістарычнага факультэту Полацкага ўніверсітэту, у сваім дакладзе распавяла пра традыцыі святкавання Божага Нараджэння ў асяроддзі беларускай шляхты ў XVII – XVIII стагоддзях.

Наталля Мізярска з Ушачаў, якая заканчвае гістарычны факультэт полацкага ўніверсітэта, свой выступ прысвяціла святкаванню Божага Нараджэння ў асяроддзі нашай шляхты ў XVII – XVIII стагоддзях.

Ксёндз Аляксандр Амяльчэня, які з'яўляецца кіраўніком беларускай службы Ватыканскага радыё, свой даклад прысвяціў асвятленню тэмы Божага Нараджэння ў матэрыялах сродкаў масавай інфармацыі.

Ён паразважаў над тым, чаму так сталася, што свята згубіла сваё асноўнае духоўнае значэнне. Згадваецца калядная варажба, прыгатаванне розных страў, упрыгожванне елкі, калядныя падарункі, а за ўсім гэтым неяк забываецца сам Езус Хрыстус, значэнне яго прыходу ў гэты свет.

У якасці прыкладу дакладчык паказаў урыўкі з тэленавін, якія выйшлі ў эфір беларускага тэлебачання цягам мінулых гадоў.

Ксёндз Аляксандр заклікаў журналістаў не баяцца рэлігійных тэмаў, быць больш падрыхтаванымі да гэтага і падыходзіць да іх больш адказна.

Апошняй выступіла сястра Дар'я Галубкова. Яе даклад быў прысвечаны тэалагічнаму зместу, маральнаму сэнсу і закліку святкавання Божага Нараджэння.

Сястра Дар'я распавяла пра гісторыю свята ў Каталіцкім Касцёле, а таксама звярнула ўвагу на сучаснае стаўленне да гэтага свята.

Спадзяёмся, што канферэнцыя паспрыяе захаванню хрысціянскіх традыцый і каштоўнасцяў у нашым грамадстве, а яе ўдзельнікі зрабілі адпаведныя высновы, якімі скарыстаюцца ў сваім жыцці.

*Больш падрабязна пра канферэнцыю можна прачытаць на нашым сайце* ***catholicnews.by***



# Чаму Касцёл супраць in vitro?



**У другой палове мінулага стагоддзя разам з імклівым развіццём біятэхналогій і біямедыцыны паявілася меркаванне, што хутка чалавек не будзе ўжо падпарадкоўвацца законам прыроды і натуральнага развіцця, але будзе тым, кім сам захоча быць. Адначасова ўзніклі прапановы поўнай свабоды ў правядзенні біямедыцынскіх эксперыментаў і даследаванняў на карысць чалавека.**

■ **с. Дар'я Галубкова**, *Віцебск*

Гэтыя намаганні, безумоўна, заслугоўвалі б прызнання і падтрымкі, калі б шанавалі чалавечую годнасць і служылі дабру ўсіх людзей. Рэчаіснасць, аднак, паказвае, што, нягледзячы на крокі, якія робіць сучасная біямедыцына, у значнай ступені накіраваныя на добрыя намеры, сродкі і метады некаторых праектаў выразна супрацьстаяць годнасці і правам асобы.

Да падобных практык належаць тэхнікі штучнай пракрэацыі, г.зн. перадачы чалавечага жыцця шляхам асемянення (*in vivo*), апладнення (*in vitro*) або клanавання.

Каталіцкі Касцёл, пачынаючы ад ацэньвання першых спробаў штучнага асемянення жанчыны ў канцы XIX ст., заўсёды адмоўна ставіўся да тэхнік штучнай пракрэацыі. Негатыўную маральную ацэнку гэтыя тэхнікі атрымліваюць перадусім не таму, што яны ненатуральныя, а таму, што супярэчаць годнасці асобаў, якія ў іх удзельнічаюць, а таксама нясуць пагрозу для жыцця і здароўя як дзіцяці, гэтак і маці.

> **"Касцёл заўсёды адмоўна ставіўся да тэхнік штучнай пракрэацыі"**

Штучную пракрэацыю нельга суаднесці з асабістай годнасцю чалавека, якая належыць усім людзям без выключэння і ёсць неад'емнай, недатыкальнай і роўнай для ўсіх. Ніхто не можа прэтэндаваць на права распараджацца іншай чалавечай істотай, як рэччу. У той жа час у дадзеным выпадку пра зачацце дзіцяці адвольна вырашае іншы чалавек, робіць сябе гаспадаром ягонага жыцця, маніпулюе ім. Чалавек можа загадзя пазбавіць права на далейшае жыццё эмбрыёну, які развіваецца не згодна з яго чаканнем.

Тое, што чалавечая істота ў працэсе *in vitro* ператвараецца ў прадмет, яшчэ больш відавочна пры маніпуляцыях над залішнімі эмбрыёнамі, якія замаражваюцца, імплантуюцца сурагатным маці, выкарыстоўваюцца ў медыцынскіх эксперыментах у якасці донараў ствалавых клетак, нарэшце, знішчаюцца або проста спускаюцца ў каналізацыю. У сувязі з гэтым трэба дадаць, што абарона жыцця і правоў дзіцяці павінна пачынацца ўжо ва ўлонні маці, бо эмбрыён/плод ад самага пачатку з'яўляецца чалавекам, а не становіцца ім пры з'яўленні на свет.

Метады *in vitro* ідуць далей і дазваляюць акрэсліць пэўныя рысы дзіцяці з дапамогай адпаведнага выбару гамет ці іх донараў. Яны даюць магчымасць умяшання ў генетычны матэрыял эмбрыёна: паклікання яго да жыцця нават пасля смерці бацькі, адвольнага выбару полу дзіцяці шляхам селекцыі эмбрыёнаў. Можна сказаць, што медыцына паволі пачынае небяспечна набліжацца да ветэрынарыі.

У натуральным працэсе перадачы жыцця бацькі хоць і робяць адпаведныя крокі для нараджэння дзіцяці, аднак вырашальны працэс патраплення дзіцяці на свет не залежыць ад іх. У рэшце рэшт яны не ствараюць сваё дзіця, не маюць улады над яго жыццём, але толькі прымаюць яго, калі адбудзецца зачацце. Такім чынам шануецца годнасць дзіцяці, а бацькі ставяцца да яго як да роўнай сабе чалавечай асобы.

З метадамі штучнага апладнення звязана небяспека для жыцця чалавечых эмбрыёнаў: іх крыякансервацыя (замаражванне) і знішчэнне. Існуюць метады, якія не патрабуюць стварэння і захоўвання некалькіх эмбрыёнаў, аднак праз невялікую эфектыўнасць і сур'ёзны характар пабочных эфектаў яны мала выкарыстоўваюцца. Найвялікшую папулярнасць мае класічны метад FIVET (апладненне ў прабірцы з трансферам эмбрыёна), які практычна звязаны з крыякансервацыяй эмбрыёнаў.

Захоўванне эмбрыёнаў у вадкім азоце не толькі супярэчыць годнасці чалавечай істоты, але нясе катастрафічныя наступствы для жыцця і здароўя. Яно абмежаванае ў часе: максімальна можа трываць ад 3 да 5 гадоў, у сярэднім 85-90% замарожаных эмбрыёнаў гіне. Крыякансервацыя ў дадатак стварае магчымасць пакідання эмбрыёнаў бацькамі, учынення іх сіротамі, што робіць іх (эмбрыёнаў) знішчэнне яшчэ больш верагодным.

> **"Этыка мае перавагу над тэхнікай: тое, што магчыма выканаць тэхнічна, не заўсёды дапускаецца маральна"**

Аналіз стану здароўя дзяцей, народжаных "з прабіркі", дае яснае ўяўленне пра негатыўныя наступствы маніпуляцый над імі падчас працэдуры *in vitro*. У такіх немаўлят часцей, чым у зачатых натуральным спосабам, назіраюцца ўнутрычэраўныя і перынатальныя ўскладненні, малая маса цела, у два разы большая смяротнасць. Дзеці "з прабіркі" маюць у 2-3 разы больш прыроджаных дэфектаў, сярод якіх цэрэбральны паралюш, хвароба сэрца, неўралагічныя, неўраартапедычныя праблемы, а ў дарослым узросце яны могуць апынуцца бясплоднымі.

Метад *in vitro* ўплывае таксама на здароўе маці. У самой працэдуры забору яйкаклетак ужываецца лапараскоп і адбываецца перфарацыя чэраўнай паражніны,штопатрабуеагульнага наркозу, з'яўляецца прычынай страты крыві, пакідае знітоўкі. Яшчэ большая небяспека звязана з гарманальнай стымуляцыяй жанчыны з мэтай выклікання гіперавуляцыі, якая вядзе да аданачасовага выспявання вялікай колькасці фалікулаў. Вынікам гэтага можа быць сіндром гіперстымуляцыі OHSS, які характарызуецца павелічэннем яечнікаў, назапашваннем вадкасці ў чэраўнай паражніне, моцным болем. У цяжэйшых выпадках гэта з'яўляецца прычынай загушчэння крыві і тромбаэмбалічных ускладненняў з сур'ёзнымі наступствамі, уключаючы інфаркт. У некаторых сітуацыях можа наступіць нават смерць жанчыны.

Нарэшце, з тэхнікамі in vitro звязаны спецыфічны сіндром, падобны да пасляабартыўнага. Пасля кароткага перыяду задавальнення з нагоды нараджэння доўгачаканага дзіцяці прыходзіць балючае ўсведамленне таго, што яго жыццё аплочана смерцю многіх іншых дзяцей.

***

У вачах Бога-Творцы кожнае чалавечае жыццё мае роўную вартасць. Толькі Ён Сам можа ім распараджацца. Праўда Евангелля, якую абвяшчае Касцёл, застаецца нязменнай, нягледзячы на змены ў грамадстве і навукова-тэхнічны прагрэс. Памятайма, што этыка мае перавагу над тэхнікай: тое, што магчыма выканаць тэхнічна, не заўсёды дапускаецца маральна.

# Пра некаторыя асаблівасці выкарыстання слоў *іграць* і *ігрок*, *гуляць* і *гулец*

**Яшчэ гадоў дваццаць назад дзеяслоў *іграць* і назоўнік *ігрок* ужываліся практычна ўсімі сродкамі масавай інфармацыі, у тым ліку на тэлебачанні і радыё. Таксама імі актыўна карысталіся і ў вуснай камунікацыі. Але па меры вяртання нашай мовы да свайго натуральнага аблічча сітуацыя з частотнасцю ўжывання названых вышэй лексем стала мяняцца. І актуалізаваўся цэлы шэраг пытанняў. Напрыклад, калі мы гаворым *"гуляць у футбол"*, але ўдзельнікаў матча называем *"ігракамі"*. І як усё ж правільна: *прайграць матч* ці *прагуляць матч*? Паспрабуем разабрацца.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Традыцыйна ў беларускай мове дзеяслоў *іграць* выкарыстоўваецца з назвамі музычных інструментаў: *іграць на скрыпцы, на акардэоне, на піяніна, на гітары* і г.д. Або *іграць польку, вальс, лявоніху* і інш. Таксама *іграць* можа радыё, магнітафон, аркестр. Яшчэ адно значэнне гэтага дзеяслова – "выкарыстоўваць чые-небудзь пачуцці для дасягнення пэўных мэтаў": *іграць на пачуццях, іграць на нервах*. Мы кажам яшчэ, што акцёр *добра іграе*, гэта значыць, выконвае ролю ў спектаклі, у кіно.

У іншых выпадках варта аддаваць перавагу дзеяслову *гуляць*, які натуральным чынам патрабуе і ўжывання назоўніка ***гулец***. Дарэчы, "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (ТСБМ, Мінск, 1978) фіксуе слова *гулец* (с. 94), але з паметай "размоўнае". Зрэшты, інакш і быць не магло амаль сорак гадоў таму ва ўмовах тэндэнцыі да зліцця нацый у адзін савецкі народ. "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ, Мінск, 1996) фактычна пакідае без змен статус згаданага назоўніка (с. 160), таксама трактуючы яго як "размоўны". Але моўная практыка апошніх двух дзесяцігоддзяў выразна паказала, што лексема **гулец** перайшла ў актыўны ўжытак і наўрад ці можа ўспрымацца як размоўная. Галоўнае сведчанне гэтага – высокая частотнасць выкарыстання слова ў штодзённай камунікацыі, найперш сродкамі масавай інфармацыі. Прывядзём колькі прыкладаў: *Тым, хто шукае сякіх-такіх навінаў з жыцця беларускіх **гульцоў**, лепш зазірнуць на адмысловыя сайты...* (Наша слова, 13.10.10); *У хакейным чэмпіянаце Беларусі ўведзены ўзроставы ліміт на **гульцоў** – 28 гадоў* (Наша ніва, 23.03.11); *Пайшоў ужо трэці месяц з тых часоў, як **гульцы** нашай каманды апошні раз атрымлівалі зарплату* (Новы час, 21.10.11); ***Гульцам** нашай зборнай пашанцавала абысціся без траўмаў* (Звязда, 15.04.15); *Сёння на зборы – 28 палявых **гульцоў** і 4 варатары... Чакаем яшчэ некалькі **гульцоў*** (Звязда, 30.03.16). Як бачна, розныя перыядычныя выданні выкарыстоўваюць назоўнік **гулец**. Гэта абсалютна натуральнае ўтварэнне: *гуляць → гул-ец*, як і *жаць → жн-ец, касіць → кас-ец* і г.д. Прафесар П. Сцяцко слушна заўважае, што "слова *гулец* належыць да прадуктыўнага словаўтваральнага тыпу" (П. Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002. – С. 200).

Такім чынам, канстатуем, што ў беларускай мове апошнім часам істотна пашырылася сфера выкарыстання назоўніка **гулец**. Асоба, якая ў што-небудзь гуляе, – гэта **гулец**, а не *ігрок*. І футбольны (хакейны, валейбольны і любы іншы) матч можна **прагуляць**. А дзеяслоў *іграць* у працэсе развіцця мовы значна звузіў свае спалучальныя магчымасці.

# Жыццёвы шлях місіянера

**Ксёндз Ежы Майка пачаў працаваць з 2002 года і быў перакананы, што зусім не важна, у якой краіне служыць святар, галоўнае – быць адданым людзям і Богу.**

**Наталля Мізярска**

Місійная дзейнасць – гэта заўсёды сустрэча з новымі людзьмі, з іх радасцямі і праблемамі. Таму святар павінен заўсёды быць адкрытым на праблемы другога чалавека, а самае галоўнае – пастаянна вучыцца і выхоўваць сябе кожны раз па-новаму.

Шлях да святарства ў ксяндза Ежы не быў стандартным. Ён выхоўваўся ў польскай каталіцкай сям'і, дзе было пяцёра дзяцей. Касцёл і сакраманты ў дзяцінстве ўспрымаў для себе вельмі важнымі дзякуючы маці і бабулі. Ксёндз успамінае: "Калі я выехаў з бацькоўскага дому і пачаў вучыцца ў тэхнікуме, а затым працаваць у шахце ў Сілезіі*, мая патрэба ў сакрамантах аслабла да таго, што я пачаў трактаваць касцёл як нейкі элемент традыцыі, фальклору, дзіўнай звычкай людзей у вёсцы".

## Навяртанне да Бога

"Момантам майго навяртання да веры стаў няшчасны выпадак, пасля якога я са зламанымі нагамі апынуўся ў шпіталі, – дзяліўся ўспамінамі Ежы Майка. – Тады я зразумеў, што жыццё чалавека вельмі крохкае, і трэба задумацца над яго сэнсам. Менавіта тады пачала зараджацца нейкая яшчэ вельмі слабая думка быць разам з Богам, Які адзіны можа надаць нейкі сэнс нашаму жыццю. Праз пэўны час я вырашыў прысвяціць сябе святарству, не маючы аніякага ўяўлення пра святарскае жыццё, і ў 27 гадоў паступіў у Духоўную семінарыю ў Кельцах.

Пасля другога года навучання я зразумеў, што жыццё святара – гэта не ўцёкі ад свету і філасофскае разважанне над сэнсам існавання. Касцёл мае нешта большае, але гэтае большае патрабуе шмат працы над сабой і вялікага цярпення. "А ці змагу я стаць паслядоўнікам Езуса Хрыста, а ці змагу разам з Ім ісці па крыжовай дарозе?" – я задаваў сабе не раз такое пытанне. Каб спыніцца і падумаць над сваім далейшым жыццём, я пакінуў духоўную семінарыю на нейкі час і вярнуўся да жыцця свецкага".

Вясновай раніцай 1997 г., ідучы на працу, Ежы Майка зразумеў, што ён гатовы стаць святаром, што гэта яго пакліканне. Вялікі ўплыў на яго аказаў пробашч, ксёндз Марэк, які працаваў у той час ва Украіне. Таксама вялікі сэнс тады мелі словы Яна Паўла II, каторы заклікаў да евангелізацыі на ўскрайках свету.

Пра місійную дзейнасць Ежы пачаў марыць яшчэ з пачатку навучання ў семінарыі, і гэта былі "рамантычныя мары" пра Афрыку.

Пасля чацвёртага года навучання ў семінарыі яму пашчасціла выбрацца на рэкалекцыі ва Украіну, у парафію, дзе працаваў яго пробашч ксёндз Марэк. Праца ў Камянцы-Падольскім маладому семінарысту настолькі спадабалася, што ён захацеў сюды вярнуцца. Пасля пасвячэння ў святары звярнуўся да біскупа ў Кельцах па дазвол выехаць ва Украіну. Але па дзіўным супадзенні праз некалькі хвілін пасля яго гутаркі патэлефанаваў біскуп Уладзіслаў Блін з Беларусі, які прасіў даслаць яму святара-місіянера. Усё імгненна змянілася: ён марыў пра Украіну, а апынуўся ў Беларусі, у парафіі Святога Лаўрэна ва Ушачах, што ў Віцебскай вобласці.



## Місія ў Беларусі

"З моманту свайго прыезду ў Беларусь я зразумеў, што тут жывуць вельмі рэлігійныя людзі. Бо ніколі за сем гадоў свайго служэння я не сустрэў чалавека, які б адкрыта заявіў, што ён атэіст або не з'яўляецца вернікам, – расказвае ксёндз Ежы. – Мае парафіяне пасля засілля савецкай улады і панавання атэізму на працягу многіх гадоў часам проста не мелі ўяўлення, якім павінен быць сапраўдны католік. На беларускім усходзе народныя традыцыі часта пераважалі над Касцёлам: вера ў культ абразоў, культ памерлых, выкарыстанне святой вады і г.д. Нават пілігрымка верніка-беларуса не заўсёды была цесна звязана з Касцёлам, а выглядала як шпацыр з сябрамі, атрыманне новых уяўленняў ад жыцця.

Выключэннем тут з'яўляўся сакрамант хросту, які браўся ў якасці Божага благаслаўлення і на ўсялякі выпадак, бо гэта не балюча і можа нават дапамагчы. Але пасля хросту такі чалавек больш не прыходзіў у касцёл. Гэта датычыць як каталіцкіх супольнасцяў, так і праваслаўных, нягледзячы на тое, што праваслаўных вернікаў значна больш у Беларусі. Таму, працуючы ў Беларусі, я адчуў патрэбнасць у рэлігійнай адукацыі дзяцей, асабліва для падрыхтоўкі да Святой Камуніі".

Ксёндз Ежы Майка ў сваёй працы з дзецьмі і моладдзю асаблівую ўвагу накіроўваў на дзяцей з бедных сем'яў. Разам з прыхаджанамі арганізоўваў наведванне дзіцячага прытулка. Пры дапамозе ксяндза была арганізаваная група ўшацкіх дзяцей, якія паехалі на адпачынак у каталіцкі лагер у Качын. З нагоды свята Божага Нараджэння падрыхтавалі Батлейку з самымі маладымі ўдзельнікамі.

Ксёндз Ежы Майка садзейнічаў арганізацыі моладзевага хору пры ўшацкім касцёле, які часта прадстаўляў калядную песню на фестывалях у Беларусі і за мяжой. Стала традыцыяй наведваць вёскі, дзе ў хаце збіраліся бабулі на святую Імшу ў нядзелю і ў святы. У дадатак ксёндз Ежы займаўся адбудовай касцёла, што быў разбураны пры савецкай уладзе. Таксама будавалася новая плябанія.

Святар успамінае, што ўшацкія парафіяне былі прывучаны да працы і шмат зрабілі для аднаўлення касцёла і плябаніі. Яны стараліся падтрымаць яго і дапамагчы яму ва ўсім. Вядома, што адрамантаваць касцёл не было пад сілу гэтай невялікай групе людзей, і спатрэбілася дапамога звонку: з Польшчы, з Германіі. Большая частка сродкаў прыйшла ад нямецкага фонду "Рэнавабіс".

Аднойчы, калі ксёндз Ежы, раўняючы зямлю вакол плябаніі, перавозіў яе на тачцы, я пацікавілася, дзе быў большы аб'ём працы: у шахце або тут? Ксёндз Ежы на хвілінку задумаўся і адказаў: "Напэўна, тут".

Незаўважна праляцела сем гадоў. Велічна ўзвышаецца касцёл, які бачны здалёку. Праз дарогу радуе вока плябанія. А ксёндз Ежы з місійнай дзейнасцю знаходзіўся ў Перу.

*Працяг у наступным нумары*

*Сілезія – рэгіён Польшчы

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Пратэстантызм



**Амаль пяцьсот гадоў таму назад, а дакладней, 31 кастрычніка 1517 года, нямецкі манах-аўгустынец, доктар багаслоўя павесіў на дзвярах катэдры ў Вітэнбергу 95 тэзаў, у якіх раскрытыкаваў тагачасную палітыку Каталіцкага Касцёла, заклікаючы тым самым да рэформы і ачышчэння. Усе, безумоўна ж, здагадаліся, што гэтым манахам быў будучы вядомы рэфарматар Марцін Лютэр.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін, Віцебск*

На працягу стагоддзяў у каталіцкім асяроддзі называлі Лютэра здраднікам, бунтаўшчыком, які не падпарадкаваўся Папу Рымскаму і тым самым быў адлучаны ад Каталіцкага Касцёла. З другога лагера, пратэстанцкага, ён быў абвешчаны нацыянальным героем, а ў Англіканскай Царкве нават святым, як чалавек, каторы адважыўся супрацьстаяць папскай уладзе. Аднак сёння, калі мінула амаль палова тысячагоддзя пасля тых падзеяў, нават з боку Каталіцкага Касцёла раздаюцца галасы ў падтрымку Марціна Лютэра. Звяртаецца ўвага на тое, што яго матывы былі добрыя, што на самай справе ён не толькі заўважыў праблемы ў тагачасным Касцёле, але і не пабаяўся іх агучыць. Таму ў гэтым артыкуле паспрабуем усё ж такі не столькі крытыкаваць Марціна Лютэра, колькі знайсці тое пазітыўнае, нягледзячы нават на балючы раскол, што атрымалася рэфарматару зрабіць.

## Пачаткі

Варта напачатку адзначыць, што ў маладосці Марцін Лютэр быў цалкам пабожным чалавекам: дысцыплінаваным манахам-аўгустынцам, які, атрымаўшы навуковую ступень багаслоўя, займаўся настаўніцкай і пісьменніцкай дзейнасцю. Вядома таксама, што першы сур'ёзны крызіс брат Марцін перажыў, наведаўшы ў 1510 годзе Рым. Менавіта ў Вечным горадзе сустрэўся ён з нічым не прыхаванымі чалавечымі слабасцямі, з гандляваннем сакрамантамі і рэліквіямі, з абыякавым стаўленнем да св. Імшы, з войнамі, якія ўвесь час праводзіў папскі пасад. Так званы "рымскі перыяд" Марцін Лютэр перажыў яшчэ ў духу веры. Аднак пазней, пасля заснавання індульгентнай практыкі, келіх яго цярплівасці перапоўніўся. Варта прыгадаць, што ў 1516 годзе Папа Леон X выдаў булу, у якой заклікаў да адпустовай практыкі. Большасць гісторыкаў, асабліва апошніх стагоддзяў, схіляецца да версіі, што Папа ў той час, распачаўшы будоўлю базілікі св. Пятра ў Рыме, патрабаваў грошай для яе завяршэння. Мы не ведаем дакладна матываў Папы Леона X. Вядома толькі, што змест самой булы выказвае клопат галоўнага пастыра пра душы сваёй паствы.

## Пытанне індульгенцый

Варта таксама крыху нагадаць пра тое, чым з'яўляецца індульгентнае, або адпустовая практыка. Індульгенцыя (лац. indulgere – даравацць) – гэта частковае або поўнае ачышчэнне ад караў. Падчас кожнай, добра адбытай споведзі Госпад Бог прабачае чалавеку грахі. Чалавеку тым самым даруецца віна. Але застаюцца наступствы гэтых грахоў ці, кажучы касцельнай мовай, кары. Караў (сваіх або памерлых) такім чынам можна пазбыцца праз індульгентны прывілей. Сэнс у тым, што дзякуючы заслугам у першую чаргу Хрыста, а таксама ўсіх святых, Касцёл у асобе Папы з'яўляецца распараджальнікам гэтых заслугаў. У індульгентнай практыцы зноў праяўляецца любоў Бога да чалавека, аб'яўленне Яго міласэрнасці. Памылка Марціна Лютэра была, хутчэй за ўсё, у тым, што ён убачыў негатыўны прыклад распаўсюджання і карыстання гэтай практыкай (гісторыкі часта падаюць прыклад нямецкага дамініканіна Яна Тэцля, які, на іх думку, вельмі актыўна гандляваў адпустамі), не паглыбіўшыся больш дасканала ў яе тэалагічны аспект. Вядома, што адна з дзевяноста пяці тэзаў, прыбітых на дзвярах катэдры ў Вітэнбергу, а менавіта трыццаць шостая, абвяшчала, што сама споведзь ачышчае як ад віны, так і ад кары.

У абарону Лютэра трэба сказаць, што ён сам не чакаў, што яго пратэст выклікае такі рэзананс амаль ва ўсёй тагачаснай Еўропе. Да гэтага варта таксама дадаць, што яго пазіцыю адразу ж падхапілі палітычныя сілы Германіі, каторыя толькі і чакалі нагоды, каб урэшце стаць незалежнымі ад ненавіснага Рыма.

## Што добрага ў Лютэру?

Але ўсё ж такі пашукаем таксама тое добрае, што атрымалася зрабіць Марціну Лютэру. Па-першае, яго пераклад Бібліі на нямецкую мову. Хоць і звярнуў ён увагу на sola scriptura – толькі Біблія, тым самым адкінуўшы традыцыю і аўтарытэт Касцёла ў інтэрпрэтацыі слова Божага, але ўсё ж такі заахвоціў звычайных хрысціян, не духавенства, да штодзённага сістэматычнага карыстання Божым словам. Біблія з цягам часу стала даступнай усё большай колькасці людзей, хаця вядома таксама, што шмат людзей у той час не ўмелі чытаць. Наступны пазітыўны элемент – заклік да большай асабістай сувязі з Хрыстом. Хаця, канешне, заклікаючы да гэтай сувязі, ён крытыкаваў адначасова святарства (ніхто не павінен быць перашкодай, як лічыў Марцін Лютэр, у гэтай сувязі), адкінуўшы далей іншыя сакраманты: канфірмацыю, споведзь, сужэнства і намашчэнне хворых. Варта таксама адзначыць, што ідэі Лютэра ініцыявалі ў Касцёле тэалагічны мысліцельны рух, з'яўленне езуіцкага ордэна, які стаў на "перадавой" у барацьбе з Рэфармацыяй, а таксама правядзенне такога важнага ў гісторыі Каталіцкага Касцёла Трыдэнцкага сабору. Напрыканцы варта ўспомніць пра цэлую плеяду пратэстанцкіх кампазітараў, пачынаючы ад Баха, пра новы літургічны падыход да Евангелля, а менавіта ўвядзенне кантаты – музычнай інтэрпрэтацыі Божага слова.

> **"Ідэі Лютэра ініцыявалі ў Касцёле тэалагічны мысліцельны рух"**

Як бачым, у гісторыі і ў самім жыцці не ўсё так адназначна, як нам падаецца. Безумоўна, Касцёл заўсёды патрабуе ачышчэння або, лепш сказаць, навяртання хрысціянаў, якія жывуць у дадзенай эпосе. І добра, калі знаходзяцца людзі, каторыя не згаджаюцца з грахом, прагнучы тым самым праўды, справядлівасці і святасці. Толькі будучыя святыя на нялёгкай дарозе перамяненне перадусім "рэфармавалі" саміх сябе, застаючыся адначасова ва ўлонні Касцёла, у паслухмянасці і пакоры. Яны перш за ўсё ўласным прыкладам імкнуліся да аднаўлення і ачышчэння рэлігійнага жыцця. Таму іх рэформы, а лепш сказаць прыклады святасці, не вялі да падзелу і разладу ў Касцёле, а толькі да перaадольвання крызісаў і звароту бязбожнікаў і заблуканых авечак да паслухмянага, вернага і адданага служэння Богу.

# Што Вы ведаеце

**На тэрыторыі нашай краіны пабудавана вельмі шмат прыгожых і ўнікальных святынь. Праверце свае веды пра беларускія касцёлы, іх гісторыю і сучаснасць у новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

1 У гэтай мясцовасці знаходзіцца святыня – першая цалкам барочная пабудова на тэрыторыі Беларусі, а таксама другая ў свеце. Сямейная пахавальня Радзівілаў у крыпце гэтага касцёла стала трэцяй па ліку сямейнай пахавальні ў Еўропе.



**А.** Полацк; **Б.** Нясвіж; **В.** Мінск

2 Які цудатворны абраз знаходзіцца ў Гродзенскай катэдры?



**А.** Абраз Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай); **Б.** Цудадзейны абраз святога Роха; **В.** Абраз Маці Божай Шкаплернай

3 У касцёле Маці Божай Ружанцовай у Смаргонскім раёне можна ўбачыць фрэску беларускага мастака Пётры Сергіевіча "Цуд над Віслай", якая адлюстроўвае перамогу польскіх войскаў над Чырвонай арміяй пад Варшавай у 1920 годзе. Якая гэта мясцовасць?



**А.** Солы; **Б.** Крэва; **В.** Вішнева

4 На чые грошы пабудаваны Чырвоны касцёл у Мінску?



**А.** На грошы Эдварда Вайніловіча; **Б.** Касцёл пабудаваны фундатарам Лапацінскім; **В.** На грошы Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі

Галіна Даўгашэй, *Ашмяны*

# Апошняя куцця

Ідуць гады, мінаюць дзесяцігоддзі. З памяці сціраюцца твары, людзі, падзеі. Нават імёны знакамітых людзей успамінаюцца з цяжкасцю. І ўва ўсіх ёсць такія моманты ў жыцці, якія згадваюцца да апошняй дробязі.

Яскрава, нібы гэта было ўчора, прыгадваецца мне 24 снежня ў далёкім 1953 годзе. Я, тады вучаніца восьмага класа сярэдняй школы, планавала пасля заняткаў пайсці дадому на куццю. Дарога складала напрасткі каля 11 кіламетраў, і да першай зоркі думала яшчэ памыцца, затым са сваёй сям'ёй паяднацца ў малітве, скласці віншаванні і сесці за незвычайны стол.

Але напярэдадні нам абвясцілі, што заняткі 24-га пачнуцца а 14 гадзіне, а 25-га зноў, як заўсёды, а 9-ай раніцы. З крыўдай, роспаччу, нават з ціхім бунтам успрыняла я такую навіну. Здалося, што нехта з бруднымі ботамі ўлез у душу і трушчыць усё святое, глуміцца з самага патаемнага.

Я нарадзілася і вырасла ў каталіцкім асяроддзі, дзе ўвесь Адвэнт рыхтаваліся да Божага Нараджэння. Падчас Адвэнту наступала светлая цішыня. Нават балагуры і п'яніцы ўстрымліваліся ад сваіх звычак… А тут кожную суботу танцы, забаўляльныя мерапрыемствы, музыка, спевы. Усё праходзіла міма нас. Гэта добра бачылі выхавальнікі. І вось сёння яны зрабілі высновы…

Насуперак здароваму сэнсу, не ўлічваючы сваіх магчымасцей, вырашыла ісці пасля заняткаў дадому. Не магла сабе ўявіць, што ў гэты незвычайны, поўны таямніц і святасці вечар магу застацца без аплатка, без агульнай малітвы, без водару духмянага сена. Разлічвала, што калі буду ісці вельмі хутка, то а 21-й гадзіне буду дома.

Сцямнела адразу. Я подбегам выйшла на цвёрдую, асветленую местачковымі ліхтарамі дарогу. Наперадзе свяціліся вокны вясковых хат. Адчула еднасць з іх жыхарамі, і гэта дадавала ўпэўненасці, што раблю я правільна. Але хутка святло вулічных ліхтароў знікла. Пакрысе цямнелі вокны хат. Ведала, што трэба было перайсці праз пакрытую густымі кустамі грэблю. Казалі, што ноччу там ходзяць ваўкі. Але я ішла з малітвай і страху вялікага не адчувала. Страх мяне чакаў наперадзе. Узнялася страшэнная завея, якая патушыла на небе зорачкі, схавала месяц. Перада мной стаяла чорная сцяна, у якую трэба было акунуцца і ісці навобмацак далей.



У поўнай цемры я засталася сам-насам з завеяй. Дужая, усё больш моцная завея і знямоглае дзяўчо... Вецер моцнымі парывамі то абдымаў мяне, то кідаў убакі, шпурляючы ў твар вярэма калючага снегу. Даўно збілася з дарогі. З цяжкасцю выцягвала з намеценых завеяй гурбаў ногі. Галошы давялося шукаць у гурбах, пакуль не зняла іх і не ўзяла ў рукі. Кожны крок даваўся з вялікай цяжкасцю. Трывожыла пытанне, ці ў правільным кірунку іду. І ўвогуле, дзе я? Баялася, што калі падамся ў левы бок, то ўпруся ў лес. І тады канец. Сілы абысці лес ці перайсці праз яго ўжо не было. Знямоглая, я спрабавала ўзлесці на гурбу і, каб зэканоміць сілы, скаціцца з яе. Але лягла і не пакацілася. Паляжала і вымушаная была ісці далей. Гэта ўжо не была хада, а барацьба з завеяй, з цемрай, са сваёй знямогласцю.

Здалося, што прырода помсціць мне за непакорнасць, за нежаданне прыняць жыццё такім, якое яно ёсць. Дарога цягнулася вечна. І надзея пакідала мяне з кожнай хвілінай. Атупелая, я карабкалася ў поўнай цемры. На вейках, валасах, каўняры ляжаў намецены снег. Вочы ўжо амаль не расплюшчваліся. Снег у валёнках, у рукавах, за каўняром ад натугі таяў і замярзаў. Адно жаданне было: сесці і заснуць.

Раптам у поўнай цемры я сутыкнулася з гумном, якое стаяла адно адзінае. Навокал не было ні хаты, ні дарогі. Думала, што зайду туды, зарыюся ў салому ці сена і перачакаю да раніцы. Мільганула думка, што там могуць быць мышы. Але гэта не стрымала б мяне. Стрымала толькі тое, што дзверы былі занесеныя снегам, да таго ж у клямцы чарнеўся вялікі замок. Ад роспачы я ўсклікнула: "Божа, мой Божа! Не дай мне загінуць, як бяздомнаму сабаку пад чужым кутом!"

І здарыўся цуд! Бура скончылася. Снежныя хмары сплылі і саступілі месца месяцу, які ярка асвятліў пакрытую снегам зямлю. Перад вачыма паўстаў матчын сад, нават хата. Я ачуняла. Гэты апошні адрэзак шляху быў цяжкі, але надзея давала сілы. Дадому падышла не дзяўчынка, а жывая гурба снегу. Спалоханая маці паднялася з ложка, паўшчувала мяне, дапамагла абтрэсці снег – толькі тады ўвайшлі у хату…

Ішлі гады. Кожны раз 24-га снежня толькі ў думках я адчувала водар сена, смак грыбоў і маку, і дзялілася аплаткам з роднымі.

Толькі малітву ніхто не мог забараніць.

# пра касцёлы Беларусі?

**5** Сюды, на месца пакутніцкай смерці благаслаўлёных святароў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры, якія ў 1943 годзе былі спаленыя карнікамі ўжывую разам з сотнямі мясцовых жыхароў, штогод прыбываюць пілігрымы.



**А.** Друя; **Б.** Росіца; **В.** Расоны

**6** У крыпце гэтага касцёла пахаваны першы беларускі кардынал Казімір Свёнтак, які памёр 21 ліпеня 2011 года на 97-м годзе жыцця.



**А.** Пінск; **Б.** Брэст; **В.** Баранавічы

**7** У Камаях (Пастаўскі раён) знаходзіцца адзін з найстарэйшых касцёлаў у Беларусі. Ён адносіцца да рэдкага тыпу храмаў – абарончага. З гэтым касцёлам звязана таксама вялікая колькасць знакамітасцяў. Які вядомы беларускі святар некаторы час працаваў у Камаях?



**А.** Казімір Сваяк; **Б.** Аляксандр Надсан; **В.** Вінцук Адважны

**8** У горадзе, дзе знаходзіцца гэты касцёл, нарадзіўся біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. У гэтай святыні ён адчуў Божае пакліканне.



**А.** Віцебск; **Б.** Глыбокае; **В.** Браслаў

*Правільныя адказы глядзіце на стар. 10*

**9** На фота – адзін з самых высокіх беларускіх касцёлаў. Дзе ён знаходзіцца?




**А.** У Гервятах; **Б.** У Мінску; **В.** У Відзах

**10** Як называецца архікатэдральны касцёл у сталіцы Беларусі - Мінску…



**А.** Імя Найсвяцейшай Панны Марыі;
**Б.** св. Сымона і св. Алены;
**В.** Узвышэння Святога Крыжа

***Падрыхтавала Ірына Радзевіч***

Каталіцкі ВЕСНІК
№12(69)
снежань 2016 г.

# Гісторыя аднаго паклікання



**Гэты артыкул прысвечаны сястры Цэцыліі Абухоўскай з супольнасці Сясцёр Маці Міласэрнасці, якая ў часы савецкага атэізму несла патаемнае, ахвярнае служэнне Богу і людзям.**

Ірына Радзевіч

Каб больш давер дацца пра жыццё і лёс 89-гадовай манахіні, я накіроўваюся ў вёску Каменку, што на Гродзеншчыне. Маршрутка спыняецца на шчучынскай аўтастанцыі, дзе мяне сустракае с. Фаўстына Цыдзік.

Разам едзем у Каменку, якая размешчана за 16 кіламетраў ад райцэнтра. Па дарозе манахіня робіць мне невялікую экскурсію, распавядаючы пра мясцовыя адметнасці і будынкі. Яна дзякуе мне за прыезд і гаворыць, што вельмі важна, каб людзі ведалі пра жыццё сястры Цэцыліі, якая аддана бараніла Касцёл і веру ў складаныя савецкія часы.

Пад'язджаем да кляштара Сясцёр Маці Міласэрнасці. Сястра Фаўстына паказвае, дзе што размяшчаецца. Потым я накіроўваюся ў адзін з пакояў і чакаю сястру Цэцылію. Манахіня самастойна прыйшла да мяне з дапамогай хадункоў. Паціху ўладкаваліся і пачалі размову.

## Цудоўнае аздараўленне

Напачатку сястра пачала ўспамінаць пра сваё дзяцінства. Яна нарадзілася ў Новай Рудзе на Гродзеншчыне ў 1927 годзе. Вельмі добра памятае сваю сур'ёзную хваробу: "Я моцна захварэла, калі хадзіла ў першы клас. Мы жылі каля возера. Я пратаптала сабе сцежку да школы праз возера і праз мост не хадзіла, бо так было бліжэй за ўсё. Аднойчы, калі я ішла дамоў, на возеры я ўлезла ў вялікі снег, закапалася ў ім. Не магла вылезці і моцна крычала. Добра, што брат быў недалёка, на падворку. Ён мяне выратаваў. Пасля гэтага выпадку я пачала хварэць. Ногі адняліся і скрывіліся. Урачы ўжо не давалі ніякай надзеі, казалі, што лепш было б, каб я памерла, бо застануся калекай".

– А якім чынам Вы ўсё ж паправіліся? – пытаюся.

– Гэта малітва маіх родных дапамагла. Я паправілася цудоўным спосабам. Мая мама ездзіла ў Гродна на адпуст Маці Божай Анёльскай. Яна вельмі горача малілася і паабяцала Богу, што калі я буду здаровая, то пайду на Божую службу. А мне пра гэта нічога ніколі не казала. Толькі потым ужо распавяла, калі я ўступіла ў супольнасць сясцёр.

## Дзясятая ў сям'і

З гонарам і радасцю сястра Цэцылія хваліцца мне: "Я ў сям'і дзясятая і самая малодшая. Дзяцінства ў нас было вясёлае. На жаль, двое дзяцей памерла ў дзяцінстве, таму нас выхоўвалася восем. Зараз ужо засталося трое. Брат мой цяпер знаходзіцца ў Польшчы, ён святар. У маладосці ён быў арыштаваны, аднак следчы сказаў яму: "Калі прыдумаеш, як выехаць, то старайся, бо будзеш у вязніцы". Брат належаў да падпольнай арганізацыі – Арміі Краёвай (АК), так і выехаў. Яму цяпер 97 гадоў, але яшчэ адпраўляе святую Імшу. У Польшчы таксама жыве наша сястра, старэйшая за мяне на тры гады".

"Гэта так цудоўна – мець такую вялікую сям'ю", – захапляюся я і разважаю пра некаторыя сучасныя сем'і, для якіх, на жаль, дзеці – гэта вялікі цяжар, перашкода.

Сястра Цэцылія згаджаецца са мной: "Зараз двое дзяцей – яшчэ нармальна, а трое – ужо страшная рэч!"

## На допытах у савецкай улады

– А як Вы патрапілі ў супольнасць Сясцёр Маці Міласэрнасці? – цікаўлюся я.

– У Новую Руду, дзе мы жылі, прыехаў ксёндз Юзаф Грасэвіч. Разам з ім прыбылі таксама сёстры, якія працавалі пры касцёле. Я часта да іх хадзіла. Мне вельмі падабалася іх малітва і з цягам часу я далучылася да іх. Уступіла ў закон, маючы 17 гадоў. Хадзіла заўсёды ў свецкім адзенні. А сёстры адразу, як прыехалі, былі ў манаскім убранні, але пасля прыдзірак саветаў насілі ўжо звычайнае сціплае адзенне, без крыжыка. Нават калі на плябаніі былі аблучыны, то я толькі пацалавала габіт (манаскае адзенне) і схавала яго. Ніхто нават і не ведаў, што я належу да супольнасці Сясцёр Маці Міласэрнасці. Мы на Божае Нараджэнне і на Вялікдзень закрывалі ўсе дзверы, толькі тады апраналі габіты і святкавалі.

Неаднаразова сястра Цэцылія прыгадвала выпадкі, калі прадстаўнікі савецкай ўлады выклікалі яе "на дыван": "Да мяне ўлады часта чапляліся. Аднойчы выклікалі ў сельсавет і дапытваліся, чаго я хаджу на плябанію, а ім адказала: "Куды хачу, туды хаджу: або ў кіно, або ў касцёл". Яны крыху мне пагражалі, але неяк абышлося – нічога не зрабілі. Таксама пыталіся ў мяне: "Ты манашка?" А я ім адказвала: "Хіба я так апранутая, як манашка?"

## Каменныя сэрцы і жыццё ў "будзе"

– Сястра Цэцылія, а як Вы апынуліся тут, у Каменцы?

– Былі 60-я гады. Вельмі цяжкія часы. Разам з ксяндзом Грасэвічам мы спачатку служылі ў Крамяніцы. У Каменку нас выправілі, можна сказаць, на "кару". Улады чапляліся, што ксёндз займаецца нібы нейкай агітацыяй. Не дазволілі працаваць і выслалі, можна сказаць, у "апошнюю" парафію, нічога не вартую, дзе было шмат праваслаўных. Як мы сказалі, што едзем у Каменку, адзін святар, які там ужо працаваў некаторы час, папярэдзіў: там каменныя сэрцы, няма для каго працаваць, няма нават чаго ехаць туды. Аднак паколькі ўлады вызначылі так, мы мусілі ехаць.

– Усё было насамрэч такім жахлівым?

– Сапраўды, як прыехалі, было вельмі мала людзей. Касцёл занядбаны, шыбы ў вокнах пазабіваныя, плябаніі для нас не было, быў балаган. Мы жылі ў "будзе". Уваходзячы, ксёндз мусіў згінацца, бо было вельмі нізка. Усё жыццё была толькі адна бяда, але разам з тым вельмі моцна падтрымлівала вера. І неяк пражылі.

"Увесь час тут, пра касцёле, вёўся рамонт. Трэба было крыць касцельны дах, бо ўсё зацякала, фарбаваць. Я нават сама хадзіла па даху, скідвала пабітую плітку. Тады была крыху спрытнейшая, чым цяпер," – з усмешкай гаворыць сястра.

Успамінае манахіня таксама заняткі па катэхезе: "Дзяцей трэба было хаваць. Ішлі на заняткі хаваючыся. Дзеці праз мур скакалі, бо праз вароты не можна было ісці. Напрыклад, у Крамяніцы, школа была недалёка, і трэба было прайсці так, каб ніхто не ведаў і не заўважыў. Калі хаваліся і дзейнічала забарона, то больш дзяцей хадзіла, чым зараз, калі ўжо можна".

## Адліга і зацалаваныя рукі

– Ужо будучы манахіняй Вы працавалі арганісткай спачатку ў Крамяніцы, потым тут, у Каменцы. Дзе Вы навучыліся іграць на аргане?

– Мае два браты былі арганістамі. Я ад іх і навучылася. І ніякіх спецыяльных курсаў я не заканчвала. Яшчэ нотаў не ведала, а ўжо іграла. Старэйшы брат ужо працаваў арганістам, калі я толькі нарадзілася. І ён сказаў бацькам, што выхавае мяне. Я часта ў яго бывала, ён клапаціўся пра мяне і вучыў іграць. Жыў ён далёка ад нас. Памятаю, што заўсёды мне і сястрычцы на Божае Нараджэнне і на Вялікдзень прывозіў розныя падарункі і адзенне.

З узрушанасцю сястра распавядае мне наступную гісторыю: "Хадзіла, апранутая па-свецку, і ніхто не ведаў, што я манахіня, вернікі думалі што я звычайная арганістка. А калі прыйшла адліга, я апранула манаскае адзенне і прыйшла ў касцёл. Іграла на аргане. Калі скончыла, да мяне падышлі людзі і пачалі цалаваць мне рукі: "Жанчынка, мы не ведалі, хто ў нас ёсць!" Такая вялікая была радасць, калі пачалася адліга і не стала праследавання".

Гэтым аповядам скончылася наша размова. На развітанне шчыра дзякую сёстрам Маці Міласэрнасці за гасціннасць, а сястры Цэцыліі жадаю моцнага жыццёвага аптымізму і такой бязмежнай радасці, якая была ў час, калі атэістычны рэжым спыніў сваё існаванне і скончылася праследаванне Касцёла.

# Удзячнасць з Гарадка

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Наша шчырая ўдзячнасць рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік" за цікавую і патрэбную газету для ўсіх католікаў! Дзякуем за старонку з віншаваннямі нашых святароў.

Мы праз газету хочам выказаць падзяку Пану Богу за шчодры дар нашай парафіі. У пэўны час на Гарадоччыне (Віцебская дыяцэзія) не толькі лютаваў атэізм, але было і асаблівае ганенне на каталіцызм. Таму нешматлікая кольказць католікаў з вялікай радасцю ўспрыняла стварэнне парафіі ў Гарадку. Але ж многія з іх ніколі не бачылі ксяндза, ні разу не прысутнічалі на святой Імшы ў касцёле, не ведалі, як там сябе паводзіць. Не бачылі ружанца і не ведалі, як ім карыстацца.

Пан Бог убачыў гэта і аказаў нам дапамогу. Да нас у парафію прыехалі дзве сястры – служабнічкі Дзевы Марыі: сястра Люцына і сястра Грацыя. І ўсю працу навучання "першакласнікаў" (і дарослых, і дзяцей) яны ўзялі на сябе. Вучылі разумець сакраманты, іх значэнне, вучылі паводзінам на Імшы. Вучылі чытаць і разумець Святое Пісанне. Тлумачылі незразумелае, а незразумелым быў у той час амаль кожны радок.

Іх клопатам стала не толькі духоўнае жыццё парафіі, але і многія гаспадарчыя справы. Зараз мы нават не ўяўляем жыцця без іх прысутнасці. Падчас кожнай Імшы наш касцёл напаўняецца музыкай і спевамі вернікаў, якіх вядзе цудоўны голас сястры Люцыны. На замену сястры Грацыі ў нас цяпер працуе сястра Шчэпана. Сёстры-законніцы заўсёды прыходзяць на дапамогу і ў асабістым жыцці вернікаў: цікавяцца іх здароўем, сямейнымі абставінамі. Дзеці, якіх першымі катэхізавалі сёстры-служабнічкі, ужо сталі дарослымі. Хоць не ўсе з іх наведваюць касцёл, але мы добра ведаем, што зерне, пасеянае сёстрамі ў іх сэрцах і душах, ніколі не загіне і хоць павольна, але ўзрасце.

Мы, вернікі парафіі Наведзіны Панны Марыі, просім, каб Усемагутны Бог захаваў трывалым здароўе нашых сясцёр-служабнічак. Хай Маці Божая кожны дзень ахінае іх сваёй ласкай, а Дух Святы няхай дапамагае ім у служэнні Богу, людзям і, вядома, нашай парафіі!

*Ад імя вернікаў парафіі,*
***Ніна Мысліцкая,***
*г. Гарадок*

# Якія назвы вуліц Вы б хацелі бачыць у сваёй мясцовасці?

**У горадзе Пінску ёсць вуліца імя Казіміра Свёнтэка, у Астраўцы адна вуліца названа ў гонар святара-паэта Казіміра Сваяка, у Маладзечне ёсць вуліцы Велікодная і Калядная.**

**А якія назвы вуліц Вы б хацелі бачыць у сваёй мясцовасці?**

*Ірына Радзевіч*



**Вольга Шафран:**

– Вуліца пад назвай святога Яна Паўла II у Астраўцы. Чаму менавіта ён? Гэта наш сучаснік. Ён жыў у нашы часы, яго ведаюць многія з часопісаў, газет, тэлебачання, а некаторым нават пашчасціла ўбачыць яго. Яго асноўная "стаўка" – моладзь. Ён той, хто змог пранікнуць сваёй любоўю ў многія маладыя сэрцы і змяніць іх. Яго любіў увесь свет. Ён той, хто у наш час стаў святым. Усё гэта паказвае на тое, што стаць святым можна і ў сучасным свеце, а вуліца з такой назвай прыгадвала б пра гэта кожнаму.



**Пётр Цвячкоўскі:**

– На маю думку, Віцебску патрэбная, напрыклад, вуліца святога Яна Паўла II. Будуюцца новыя мікрараёны, а назвы вуліц надаюць у гонар акцёраў, генералаў ды іншых дзеячаў. А чым "горшы" святы Ян Павел II? Ён быў узорам малітвы да Бога, любові да чалавека, меў моцную веру. Прыемна было б бачыць вуліцу Святога Духа або вуліцу Велікодную, Калядную.



**Валерый Баброўскі:**

– Мінску патрэбна вуліца Эдварда Вайніловіча. Менавіта ён зрабіў такі ўнёсак для Мінска і Беларусі, што яго светлым імем трэба назваць шмат вуліц у краіне, і не толькі. У Беларусі павінен існі працэс вяртання вуліцам старажытных хрысціянскіх назваў. А вуліцы, названыя імёнамі злачынцаў, павінны быць перайменаваныя. Беларусы мусяць паважаць Бога, Радзіму і саміх сябе.



**Кацярына Качарго:**

– Мне б вельмі хацелася, каб у Мінску адна з вуліц насіла імя Эдварда Вайніловіча. Ён быў выбітным палітычным і грамадскім дзеячам, чалавекам моцнай і непахіснай веры. Эдвард Вайніловіч пакінуў свой след у гісторыі Беларусі, унёс істотны ўклад у культурнае і духоўнае развіццё грамадства, пабудаваўшы касцёл у памяць пра сваіх заўчасна памерлых дзяцей. Гэта чалавек, з якога трэба браць прыклад, бо сваім жыццём ён даказаў, што, нягледзячы на самыя вялікія цяжкасці і выпрабаванні, можна застацца добрым і сумленным. Я лічу, што яго імя заслугоўвае быць увекавечаным у назве адной з вуліц.



**Вольга Дзецярэнка:**

– Хацелася б бачыць вуліцу Гадлеўскага ў Мінску. Каталіцкі святар, якога некаторыя лічаць Каліноўскім XX стагоддзя, чалавек, каторы, акрамя сваіх прамых абавязкаў рэлігійнага дзеяча, займаўся асветніцкай працай, папулярызаваў беларускую мову ў Касцёле, дапамагаў простым людзям у звычайных штодзённых пытаннях, падтрымліваў ідэю незалежнасці Беларусі.

### Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Якія назвы вуліц Вы б хацелі бачыць у сваёй мясцовасці?**



- хачу, каб вярнулі гістарычныя назвы вуліц – 95 адказаў;
- вуліцы з імёнамі святых – 75 адказаў;
- вуліцы ў гонар рэлігійных дзеячаў мясцовасці, краіны – 34 адказы;
- вуліцы, звязаныя з хрысціянскімі святамі, падзеямі – 21 адказ;
- іншы адказ у каментарах у сацыяльных сетках – 2 адказы.

**Усяго апытаных – 227 чалавек**

***



Ноч калядная,
Зорка ясная.
Нарадзіўся Ён – Божы Сын,
Каб жыццём сваім і ахвяраю
Сведчыць: Збаўца Ён нам адзін.

Зорка ясная,
Непагасная,
Шлях жыццёвы нам асвяці,
Каб за Езусам больш упэўнена
З верай-праўдаю
Нам ісці!

Ноч калядная,
Зорка ясная,
І для радасці шмат прычын.
Бо для нас, людзей,
І для вечнасці
Нарадзіўся Ён – Божы сын.

*Даната Варабей*
*г. Мядзел*





# Беларусь у "святых" гербах: Ушачы



**На гербе Ушачаў мы бачым выяву святога Лаўрэна. Таму, здаецца, недарэчна казаць, што ў яго руках прылада для фарміравання цэглы, як сцвярджаюць на адным з сайтаў.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Расіца*

Аўтары герба выкарыстоўвалі старажытныя выявы святога, на якіх па традыцыі ён паказаны з сімвалам свайго мучаніцтва – кратай. Сённяшні мовай можна было б сказаць, што гэта прылада для грыля.

Не баюся гэтага жарту, бо легенды пра святога архідыякана Лаўрэна сведчаць пра яго вялікую адвагу і незвычайнае пачуццё гумару. Менавіта ён з насмешкай, скіраванай у бок сваіх катаў, калі яго расцягнулі на краце і падкладвалі пад яе вуглі, казаў: вы ўжо падсмажылі адзін бок майго цела, перавярніце, падсмажце і ешце(!). Можа падацца, што гэтая гісторыя неверагодная, але менавіта яе хрысціяне передавалі з вуснаў у вусны як аповед пра мужнае прыняцце смерці. І гэта не прафанацыя мучаніцтва, а такса-ма драматычнай падзеі, якой з'яўляецца смерць, а прыклад сапраўднага хрысціянскага аптымізму, што будуецца на ўваскрасенні Хрыста. Кожны, хто ў тыя часы, напрыканцы III стагоддзя, збіраўся служыць Пану, аўтаматычна згаджаўся на мучаніцтва. Бо імператар выдаў распараджэнне праследаваць без суда тых, хто выконвае ў Касцёле хоць найменшую функцыю.

Лаўрэн быў адным з архідыяканаў Рымскага Касцёла, даверавым чалавекам Папы Сікста II. Выконваў функцыю казначэя, апекаваўся беднымі. У прынцыпе такая жорсткая смерць была формай катавання, каб даведацца, дзе знаходзіцца касцельная казна. Лаўрэн, прадчуваючы небяспеку, раздаў усё бедным, да апошняга гроша. І на пытанне ўладара, дзе скарбы, прывёў жабракоў, калек і сляпых.






Цікава, што не толькі Ушачы маюць герб са святым Лаўрэнам. Вось толькі выява святога мае розныя выкананні. Напрыклад, на гербе Гурна (Польшча) пра святога мучаніка нагадвае нагрэтая да чырвані крата. А на гербе Войніча (Польшча) святы Лаўрэн паказаны распранутым на фоне краты, што нагадвае Хрыста на крыжы.

У наш час, каб знайсці прычыну, па якой на гербе Ушачаў з'явіўся святы Лаўрэн, трэба зрабіць навуковае падарожжа ў архівы. Але незалежна ад таго, што думалі ўлады ВКЛ, калі надавалі Ушачам Магдэбурскае права і герб, святы Лаўрэн да сённяшняга дня апякуецца горадам. Сучасны каталіцкі храм мае тытул св. Лаўрэна, мучаніка.




**1 студзеня – Дзень Святой Багародзіцы Марыі.**

Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рыма-Каталіцкага касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасярэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі).**

Касцёл успамінае ў гэты дзень вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычніцкім народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна лічаць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюцца дзверы жылля, пішуць на іх актуальны год і першыя літары надпісу "Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус блаславіць гэты дом": C+M+B+2017

**8 студзеня – Хрост Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў абліччы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў абліччы голуба.

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

**1 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**, **кс. Ежы Грыцко ISCh** *(Першамайск)*;

**2 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Лявінскі** *(Гродна)*;

**3 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **Арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч**, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Юрый Ноцунь SCJ** *(Барадзенічы)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Віктар Барысевіч OFMCap** *(Ліпнішкі)*;

**4 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*, **кс. Ян Этэль SCJ** *(Гродна)*;

**5 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Казлоўскі** *(Малая Бераставіца)*;

**6 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*;

**7 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*; імяніны адзначаюць **кс. Люцыян Даброўскі SDB** *(Баруны)*, **кс. Люцыян Радомскі** *(Лунно)*;

**12 студзеня** – імяніны адзначае **а. Арыюш Малыска OFMCap**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*;

**13 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бурак** *(Лаздуны)*;

**15 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Ствол** *(Цудзенішкі)*, **кс. Андрэй Фёдараў** *(Беразіно)*;

**16 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Чэслаў Паўлюкевіч** *(Рось)*;

**17 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Станіслаў Краўчанка** *(Смаргонь)*;

**18 студзеня** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**;

**19 студзеня** – імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Генадзь Рэйшэль** *(Віцебск)*, **кс. Гэнрык Яблонскі** *(Ваўкавыск)*, **кс. Гэнрык Яблонскі** *(Забалоць)*;

**20 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Агліман-тас Паўлікас** *(Адэльск)*;

**21 студзеня** – імяніны адзначае **а. Яраслаў Славамір Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**22 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Здзіслаў Ведэр** *(Смаргонь)*;

**23 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Барысюк** *(Казловічы)*, **кс. Леон Ладыш** *(Войстам)*; імяніны адзначае **кс. Канстанцін Каракa**;

**24 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Віталь Слука SChP** *(Шчучын)*;

**25 студзеня** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі**; дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Павел Гедройць** *(Гальнка)*;

**26 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Беланос** *(Макараўцы)*;

**27 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Рагіня** *(Нунцыятура ў Чадзе, Афрыка)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Тамаш Станэзэцкі** *(Рагозніца)*;

**28 студзеня** – імяніны адзначаюць **а. Юры Катовіч OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Тамаш Станэзэцкі** *(Рагозніца)*;

**29 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Мятліцкі SDB**; імяніны адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **бр. Валерый Кунгер OFMCap**, **кс. Аляксандр Мятліцкі SDB**, **кс. Валерый Аброшка** *(Гродна)*, **кс. Валерый Быкоўскі** *(Гродна)*, **кс. Валерый Мазюк CSsR** *(Гродна)*, **кс. Валерый Спірыдон** *(Гродна)*, **кс. Валерый Шэйгерэвіч OFMConv** *(Свіслач)*;

**31 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*

# Бласлаўлёная Лаўра Вікуна
## *22 студзеня*



## "Святая ахвярнай любові"

**Гэта была незразумелая для ўрачоў хвароба: імклівае яе развіццё, дзіўныя сімптомы, немагчымасць паставіць дыягназ – дзяўчынка памірала на вачах. Лекары былі бездапаможныя не таму, што ім не хапала адукацыі, досведу або ўменняў. Проста хвароба мела духоўную, а не фізічную праяву. І ў духоўным свеце гэта было не паразай, а вялікім трыумфам 13-гадовай чылійскай дзяўчынкі.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін*, *Расіца*

Так здараецца часта: упарадкаванае, шчаслівае жыццё рассыпаецца, як картачны домік. У выніку палітычных змен у грамадстве тата 3-гадовай Лаўры, дваранін і вайсковец, змушаны ўцякаць разам з сям'ёй. Ён памірае ад хваробы, калі Лаўра яшчэ зусім маленькая, а яе сястрычка толькі мае прыйсці на свет.

Таксама здараецца часта, што сітуацыя змушае прыняць не іншыя, а менавіта такія рашэнні. Мама Лаўры, каб забяспечыць сваіх дачушак, згаджаецца на жыццё без шлюбу з багатым чалавекам. І, як аказалася пазней, абсалютным самадурам, аматарам выпіць, тыранам, сексуальным вычварэнцам. Ён не толькі выкарыстоўваў сітуацыю беднай жанчыны і ператварыў яе жыццё ў пекла, але пазней у п'янстве і пажадлівасці дамагаўся ад падрослай дзяўчынкі ўзаемнасці.

Лаўра ў дзесяцігадовым узросце зразумела, што мама вельмі церпіць, што яна нешчаслівая, бо жыве ў граху з чалавекам, якога не кахае, і яшчэ больш пакутуе таму, што не можа спавядацца і прымаць Святую Камунію. Дзяўчынка таксама адчувае на сабе гэту сітуацыю: сёстры-салезіянкі не прымаюць яе ў кляштар, бо ведаюць пра грэшны выбар маці.

Таксама здараецца, што дзеці часта больш духоўна развітыя і маюць большую духоўную адвагу, чым дарослыя. Лаўра адчувае вялікае прагненне дапамагчы маме і робіць гэта так, як разумее. Пачуўшы з Евангелля пра тое, што калі любім, то аддаём жыццё за іншага, яна ахвяроўвае сваё жыццё за навяртанне мамы. У гэты час айчым у п'яным ачмурэнні ўсё часцей дамагаецца дзяўчынкі. Злуючыся праз яе ўпартасць, ён адмаўляе аплачваць навучанне ў сясцёр. А аднойчы нават пагнаўся за дзяўчынкай па вуліцы, дагнаў і публічна яе збіў. Лаўра абяцала Богу вернасць і мужна бараніла сваё дзявоцтва.

За некалькі гадзін перад смерцю Лаўра адкрывае маме сваю вялікую таямніцу: яе жыццё – гэта ахвяра за самага дарагога чалавека, за яе, за маці. Гэта робіць такое ўражанне на дарослую жанчыну, што яна спавядаецца над труной сваё дачкі і пастанаўляе выправіць сітуацыю.

Нездарма 13-гадовая бласлаўлёная Лаўра стала апякункай праблемных сем'яў. Яна дае нам надзею на пераадоленне сітуацый, здавалася б, невырашальных. Таксама яна вучыць нас евангелічнаму радыкалізму ў змаганні за вечныя каштоўнасці – дзявоцтва, любоў, прабачэнне.

## Што Вы ведаеце пра касцёлы Беларусі?

**Адказы на тэст са стар. 6–7**

**1.** Б. Нясвіж
**2.** А. Абраз Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай)
**3.** А. Солы
**4.** А. На грошы Эдварда Вайніловіча
**5.** Б. Расіца
**6.** А. Пінск
**7.** А. Казімір Сваяк
**8.** В. Браслаў
**9.** В. У Відзах
**10.** А. Імя Найсвяцейшай Панны Марыі

# Як павянчацца з праваслаўным мужам у сталым узросце?



*"Хвала Хрысту! Праз газету "Каталіцкі Веснік" хачу атрымаць адказ на маё пытанне. У дзяцінстве і юнацтве я хадзіла ў касцёл, спавядалася і прымала Камунію. Потым выйшла замуж за праваслаўнага. Ён ваенны, служылі там, дзе не было касцёла. Жылі без касцельнага шлюбу. Вярнуліся ў Беларусь. Я пачала хадзіць у касцёл, але не спавядаюся і не прымаю Камунію. Мы жывём з мужам разам многа гадоў. Цяпер нам па 70 гадоў. Ці можна ў старасці, пасля столькіх гадоў сумеснага жыцця спавядацца і прымаць Камунію? Калі гэта немагчыма, адкажыце праз газету, як трэба зрабіць? Як павянчацца з праваслаўным мужам?"*

*Кацярына*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага, Пінск):**

– Паважаная Кацярына!

Гісторыя Вашага жыцця, хоць выключная з погляду непаўторнасці чалавечай асобы, але падобная да гісторыі шматлікіх людзей. Вашыя бацькі перадалі Вам дар веры і навучылі маліцца, за што Вы, без сумневаў, дзякуеце Богу і ім. Гэта вельмі вялікі бацькоўскі дар! Шмат гадоў прайшло з таго часу... Цяпер Вы зрабілі вельмі важны крок пасля вяртання на радзіму – сталі нанова наведваць касцёл і прагнеце прымаць сакраманты.

Сакрамант споведзі, устаноўлены Езусам Хрыстом, – гэта дар для вернікаў, бо дзякуючы яму мы можам наблізіцца да Божай міласэрнасці, атрымаць прабачэнне грахоў і асвячальную ласку. Згодна з навучаннем Касцёла, не можа атрымаць адпушчэння грахоў у споведзі і прымаць Святую Камунію вернік, які жыве ў несакраментальным шлюбе. Пра сітуацыю такіх вернікаў пісаў святы Ян Павел ІІ, прыпамінаючы, што Касцёл праяўляе адносна іх любоў, аднак не можа іх дапусціць да сакрамантаў, таму душпастыры робяць намаганні, каб прывесці іх да ўпарадкавання свайго становішча, г. зн. да сакрамантальнага шлюбу[1]. Не заўсёды жыццё без касцельнага шлюбу ёсць вынікам адварочвання ад Бога ці нязгоды з каталіцкай дактрынай. Гэта бывае таксама культурным кантэкстам або іншымі акалічнасцямі, а самі вернікі з цягам часу нават пасля многіх гадоў сумеснага жыцця звяртаюцца да сваіх святароў з просьбай аб удзяленні сакраманту шлюбу. Пра сітуацыю такіх вернікаў піша Папа Францішак, заахвочваючы іх імкнуцца да паўнаты сужэнства і сям'і[2].

Змешаныя сужэнствы не рэдкасць у нашай краіне, беручы пад увагу той факт, што Бог наканаваў пад адным беларускім небам жыць і католікам, і праваслаўным, ды людзям іншых веравызнанняў. Таксама заканадаўствам Каталіцкага Касцёла выпрацаваныя прынцыпы падрыхтоўкі да змешанага шлюбу і літургічныя нормы яго ўдзялення. Пры гэтым трэба зазначыць, што праваслаўны мае права застацца пры сваім веравызнанні. Дастаткова звярнуцца да пробашча сваёй парафіі, г. зн. па месцы жыхарства, каб атрымаць адпаведную дапамогу. Святар распазнае Вашу сітуацыю і, беручы пад увагу абставіны, прапануе неабходныя дзеянні. Касцёл, паслухмяны Пану Езусу Хрысту, з вялікай радасцю бласлаўляе як маладых нарачоных, так і тых, хто пасля шматлікіх гадоў сумеснага жыцця вырашае ўпарадкаваць свае адносіны з Богам. Нельга думаць, што ўзрост можа тут быць перашкодай. Нельга таксама саромецца людзей у такім пытанні, бо гэта добрая справа і радасць не толькі для сужэнцаў, але і для супольнасці мясцовай парафіі. І для ўсяго Неба!

Ва ўзгаданай вышэй адгартацыі Папа Францішак заахвочвае, каб мы безупынна імкнуліся да таго, што нас пераўзыходзіць, а таксама перамагалі свае абмежаванні і ніколі не трацілі надзеі, але імкнуліся да паўнаты любові і еднасці, якія нам абяцаныя Богам[3].

Паважаная Кацярына! Дзякуй Вам за пастаўленае пытанне, якое можа цікавіць і іншых чытачоў "КаталіцкагаEcніка". Я ўпэўнены, што Бог Вам удзеліць шмат ласкаў дзеля паспяховага вырашэння справы шлюбу і набліжэння да крыніц міласэрнасці. На заканчэнне прапаную 1448 нумар "Дзённіка св. Фаўстыны": "Пішы, гавары пра Маю міласэрнасць. Скажы душам, дзе яны павінны шукаць суцяшэння, – у судзе міласэрнасці[4]. Там – найвялікшыя дзівосы, якія пастаянна паўтараюцца. Каб заслужыць гэты цуд, не трэба здзяйсняць ні далёкай пілігрымкі, ніякіхсьці знешніх абрадаў – дастаткова з вераю прыступіць да падножжа Майго намесніка і сказаць яму пра сваю бяду, і цуд Божай міласэрнасці з'явіцца ва ўсёй паўнаце. Нават калі душа, як труп, загнівае, і ў людскім разуменні ўваскрашэнне ўжо немагчымае, і ўсё ўжо страчана, для Бога гэта не так. Цуд Божай міласэрнасці ўваскрашае такую душу ва ўсёй паўнаце. Бедныя тыя, хто не карыстаецца гэтым цудам Божай міласэрнасці. Дарэмна будзеце клікаць: будзе ўжо запозна".

[1] Пар. Ян Павел ІІ, Апостальская адгартацыя Familiaris consortio, 82.

[2] Пар. Францішак, Апостальская адгартацыя Amoris laetitia, 294.

[3] Пар. Тамсама, 325.

[4] Гэта значыць, у сакраманце пакаяння.

## Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **вернікі з Параф'янава**, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ганна Спірыдовіч** *(Лепель)*, **Браніслаў Апанасевіч** *(Вілейка)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Старыя Габы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Віталь Зінкевіч** *(Пліса)*, **Аліна і Францішак Камянецкія** *(Докшыцы)*, **парафіяне з Ёдаў**, **Аляксандра Гушча** *(Оцкавічы)*, **Вільгельміна Барткевіч** *(Муляры)*, **Яніна Сінкевіч** *(Муляры)*, **Людміла Бараноўская** *(Муляры)*, **Крысціна Букатава** *(Муляры)*, **Таццяна Рамейка** *(Муляры)*, **Генавэфа Дубіловіч** *(Муляры)*, **Часлава Кіжло** *(Шуневічы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Алімпіяда Цішко** *(Старыя Габы)*, **Ядвіга Кавалёнак** *(Васількова)*, **Пашкевіч Ж.** *(Браслаў)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Раіса Калбасіч** *(Шуневічы)*, **Ганна Працук** *(Шунеўцы)*, **Бенісія Пачкоўская** *(Гірстуны)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **кс. Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі** *(Маладзечна)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Віншуем Вас са Святам Божага Нараджэння!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Як распазнаць тых людзей, што займаюцца магіяй?



***"Як распазнаць тых людзей, што займаюцца магіяй, варажбой?"***

*Вернікі з Германавіч*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч, марыянін з Расіцы:**

– Складваецца такое ўражанне, што пытанняў пра магію і варажбу вельмі шмат, асабліва ў апошні час. Мне падаецца, што мы, на жаль, няправільна фармулюем пытанні пра гэтую з'яву, а значыць, няправільна яе разумеем.

Як зразумець: "распазнаць людзей"? Найчасцей людзі, якія займаюцца магіяй і варажбой свядома, можна сказаць, "прафесійна", аказваючы іншым свае паслугі, натуральна, будуць свае магчымасці рэкламаваць. Для іх гэта выгадна, бо мае фінансавае значэнне. Людзі, што карыстаюцца паслугамі варажбітоў, хутчэй за ўсё, гэтага афішаваць не будуць. І з пачуцця сораму, і з пераканання, што ім могуць адпомсціць.

Падаецца, што нашы пытанні пра магію і варажбу выклікае страх перад абрадамі і недахоп даверу да Бога. Мы часам мяркуем, што перад магічнымі абрадамі і закляццямі апынаемся безабароннымі. А гэта няпраўда. Атрымліваецца, што мы верым у сілу магіі, але не ў сілу малітвы, сакрамантаў, Божага слова. Паўстае вялікае пытанне, і менавіта яно здаецца самым важным – пытанне пра маю веру: ці веру я, што Бог усемагутны? Ці веру, што Бог можа мяне абараніць і што Ён абараняе?

Іншы аспект: а што будзеш рабіць, калі даведаешся, што хтосьці займаецца магіяй або карыстаецца паслугамі варажбіта? Слова Божае нас навучае, што Бог да часу хавае нашы грахі перад вачамі людзей, даючы шанец навяртання. Падумайце самі, ці хацелі б вы, каб усё, што з'яўляецца грэшным, памылковым у вашым жыцці, станавілася справай публічнай, усім вядомай?

Як паказвае досвед экзарцыстаў, найчасцей зло прыходзіць у наша жыццё праз наш асабісты грэх, праз нашае богаадступніцтва, а не праз іншага чалавека і здзейснены магічны абрад.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шчыра віншуем **біскупа Алега Буткевіча, ксяндза-пробашча Станіслава Мжыглуда, кс. Уладзіміра Шыдлоўскага, кс. Адама Квяткоўскага**, таксама **святароў, сясцер законных, якія паходзяць з нашай парафіі**, са святам Божага Нараджэння і Новага года!

Жадаем моцнага здароўя, бязмежнай міласэрнасці, моцы Духа Святога, плёну ў працы на карысць Святога Касцёла, радасных дзён, добразычлівых людзей побач. Няхай народжаны Езус Хрыстус будзе жаданым госцем вашых сэрцаў, думак, слоў і ўчынкаў!

**Вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай**



## Пахвалёны Езус Хрыстус! Вясёлых Калядаў! Паважаны ксёндз Ян Пугачоў!



Шчыра віншуем Вас з цудоўным святам Божага Нараджэння!

Езус Хрыстус прыйшоў на зямлю, каб прынесці нам святло, надзею і ўпэўненасць, што Пан Бог споўніць свае абяцанні для нас і ачысціць свет ад зла, рознага падману і пакут. У гэтыя дні жадаем Вам асаблівага Божага натхнення і радасці ў служэнні Касцёлу. Няхай Збаўца народзіцца ў Вашым сэрцы, а Бэтлеемская Зорка хай асвятляе Ваш жыццёвы шлях! Моцнага здароўя, Божай міласэрнасці! Хай у новым годзе здзейсняцца ўсе задумы, планы, праекты і мары!

**З любоўю і малітвай, удзельнікі малітоўнага руху "Апостальства Маргарыткі" касцёла Перамянення Пана (в. Германавічы)**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Так здарылася, што ўвосень цяжка захварэў наш душпастыр – ксёндз Юры Ноцунь, які і зараз знаходзіцца на лячэнні ў Польшчы. Але дзякуючы **ксяндзу Яну Пугачову** з Германавіч мы не засталіся адны ў чаканні цудоўнага свята Божага Нараджэння. Нягледзячы на адлегласць у 40 км і адсутнасць асабістага транспарту, святар прыязджае да нас кожную нядзелю і ў святы.

Шчыра віншуем Вас, паважаны ксёндз Ян, са святам! Мы ўдзячныя Пану Богу і Божаму Провіду, што хоць і не на доўгі час прыслаў нам такога энергічнага, ініцыятыўнага святара, які стаў для нас добрым пастырам, удыхнуў новае жыццё ў нашу парафію. Дзякуем за шчырую і цікавую навуку.

Жадаем, паважаны ойча, дароў Духа Святога на далейшае плённае служэнне Богу і людзям. Хай добры Бог асвеціць сваёю ласкаю Ваш зямны шлях, а Маці Божая няхай заўсёды апякуецца Вамі!

**Вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай, аг. Ёды (Шаркаўшчынскі р-н)**



## Калядная паштоўка

Паважаных нашых святароў – **ксяндза-пробашча Рамана Мурзіча, ксяндза Аляксея Юркайца, сясцёр законных – Марыну і Бернадэту** – шчыра віншуем са светлым святам Нараджэння нашага Збаўцы Езуса Хрыста і з усёй нашай сардэчнасцю і душэўнай цеплынёй жадаем

*Найлепшага, святочнага настрою,*
*Здароўя моцнага, апекі Маці Божай,*
*Святла душэўнага і супакою,*
*Няхай жа радуе калядны дзень прыгожы!*

*Няхай святочны гэты дзень іскрысты*
*Падорыць шчасце і задавальненне*
*Ад працы вашай, бо жывую існасць*
*Нясе ў сабе біблійнае вучэнне.*

*Душу ўзвышае нараджэнне Збаўцы,*
*У ім – усяго свету суцяшэнне.*
*Няхай Бог блаславіць вашу працу,*
*Ваш шлях духоўны і нясе натхненне!*



**Удзячныя вернікі параф'янаўскай парафіі**

## Хвала Хрысту!



Паважаныя супрацоўнікі **"Каталіцкага Весніка"**! Віншую Вас з надыходам свята Божага Нараджэння! Жадаю Вам усім і **галоўнаму рэдактару ксяндзу Віктару Місевічу** Божых ласкаў, апекі Маці Божай, добрага здароўя і плёну ў такой пачэснай працы.

Дзякую за цікавыя і карысныя матэрыялы, за Божае слова, якое Вы даносіце да чытачоў, дзякую за малітвы за нас – ахвярадаўцаў!

**З павагай, Ваша чытачка Аліцыя Трафімовіч (Паставы)**



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважанаму **ксяндзу Раману Мурзічу** дасылаем самыя шчырыя і сардэчныя пажаданні з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 11 снежня.

Няхай кожны дзень праходзіць у радасці, хай сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі Вас не пакідаюць, а побач будуць шчырыя і зычлівыя людзі! Жадаем Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі. Просім, каб міласэрны Бог даў Вам, ксёндз Раман, моцнае здароўе, душэўны супакой, цярплівасць. Жадаем шчодрых дароў Духа Святога, а Найсвяцейшая Маці хай нястомна апякуецца Вамі! Мы ў штодзённых малітвах памятаем пра Вас.

**З вялікай пашанай, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі з Параф'янава**

## Віншуем!

Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза-пробашча** параф'янаўскай парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі **Рамана Мурзіча** з Днём нараджэння!

*Дзень нараджэння – час такі жаданы!*
*І ў гэты радасны, святочны дзень*
*Вам дзякуем з павагай і пашанай*
*За веры моц. Нібы жывы струмень,*



*Яна нас жывіць і дае нам сілу*
*У неспакойны і складаны час.*
*Здароўя моцнага Вам, ойча мілы!*
*Свае малітвы ўзносім мы за Вас.*

*Вы – пастыр добры, наш святы Настаўнік,*
*Што кожнага да веры давядзе.*
*Апекі Маці Божай, Дзевы слаўнай,*
*Мы Вам жадаем у святочны дзень.*

*Служэння плённага на ніве Божай,*
*Святога Духа шчодрых Вам дароў!*
*Бог адарыў Вас доляю прыгожай.*
*Прыміце нашу ўдзячнасць і любоў!*

**Удзячныя вернікі параф'янаўскай парафіі**



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Дасылаем у газету шчырыя віншаванні нашаму **ксяндзу Віталю Гальцу** з нагоды Дня нараджэння.

Жадаем Вам, паважаны ксёндз Віталь, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога!

Мы ўдзячныя Богу за ласку спаткання з Вамі. Дзякуем Вам за Божае слова, за глыбокую веру, за аптымізм і чуласць. Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам і Вашым родным праз усё далейшае жыццё!

**З павагай, вернікі парафіі св. Лаўрэна (Ушачы)**

## Віншуем!



Паважанага **ксяндза Леаніда Мозгеля** віншуем з Днём нараджэння!

Сардэчна дзякуем за шматгадовую працу ў нашай, цяпер ужо былой Лявонпальскай парафіі і нашым касцёле да моманту яго закрыцця!

Дасылаем самыя прыгожыя пажаданні: моцнага здароўя на ўсё жыццё, радасці, аптымізму, надзеі, душэўнага супакою, сіл, стойкасці і мужнасці на кожны дзень у нялёгкай святарскай працы, Божага блаславення і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай прыклад Вашай веры, шчырасці і ахвярнасці будзе добрым узорам для ўсіх парафіян. Дзякуем за шчырае сэрца, за дабрыню і Божае слова, а Вашай маме – за шчырага і добрага сына святара! Няхай Езус Хрыстус зберажэ ад няшчасцяў, блаславіць Вас і блізкіх Вам людзей!

Жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння!

**З вялікай павагай і ўдзячнасцю, былыя парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня Мёрскага раёна**

## Хвала Хрысту!

Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння (26 снежня) і Калядных свят жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, людской добразычлівасці! Няхай нованароджаны Божы Сын узмацняе Вас у пакліканні, а кожны дзень жыцця хай будзе напоўнены людской дабрынёй і задавальненнем ад абранага жыццёвага шляху.

Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, а Пан Бог хай адорвае Вас сваімі ласкамі!

**З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі з Павяцця**



## Хвала Хрысту! Шаноўны ксёндз Адам Квяткоўскі!



Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння і імянінамі, якія Вы адзначаеце 24 і 25 снежня! Паважаны айцец Адам! Вы самы добразычлівы, добрасумленны і шчыры чалавек. Вы шчодра дзеліцеся цяплом і святлом Божай любові з вернікамі. Шчыра дзякуем Вам за тое, што, не шкадуючы сілы, выконваеце волю Хрыста. Прыгажосцю сваёй душы, святасцю, справамі, разуменнем вядзеце нас дарогай Божай праўды.

Ад усяго сэрца віншуем Вас таксама са святам Божага Нараджэння і новым 2017-ым годам! Дасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства.

**З павагай і ўдзячнасцю, Леакадзія Абухоўская і Часлава Замосцік**

## Шаноўны ксёндз Адам Квяткоўскі!



Касцельная супольнасць "Маці ў малітве" парафіі Нараджэння Маці Божай у Браславе ад шчырага сэрца віншуе Вас з Днём нараджэння! Дзякуй Вам за тое, што на працягу многіх гадоў Вы дапамагаеце нам расці ў веры, разам з намі моліцеся за духоўнае і фізічнае здароўе нашых дзяцей і ўнукаў, просіце ў Пана Бога і Яго Найсвяцейшай Маці апекі для нас і для іх.

Дзякуем Вам за ахвярную працу на Божай ніве, за дабрыню, за чулае сэрца, за павагу да кожнага чалавека, з якім Вы сустракаецеся на дарозе пастырскага служэння. Жадаем Вам Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа!

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем* ***ксяндза Вацлава Суткоўскага*** *з Днём нараджэння, які ён святкаваў 4 снежня.*

*Жадаем ксяндзу Вацлаву моцнага здароўя і поспехаў у працы! Ён вельмі добрай душы чалавек.*

*Таксама хочам павіншаваць* ***ксяндза Вячаслава Барка*** *з Днём нараджэння, які ён святкуе 6 студзеня. Мы жадаем ксяндзу Вячаславу поспехаў у яго нялёгкай працы, добрага здароўя!*

*Усіх, хто працуе над газетай, віншуем з Божым Нараджэннем і надыходам Новага года!*

*Жадаем моцнага здароўя і поспехаў ва ўсіх справах.*

***Парафіяне касцёла Язафата Кунцэвіча (Расоны)***



## Дзякуем, віншуем, жадаем Хвала Хрысту!



Час Адвэнту – гэта святы час, спрыяльны для нашага духоўнага ўзрастання, умацавання нашай веры, працы над сабою. Гэта светлы час чакання незвычайнай падзеі – нараджэння нашага Збаўцы Езуса Хрыста, Які цудоўным чынам з'явіцца на свет, каб збавіць нас, грэшных, ад вечнай смерці і паклікаць за сабою да жыцця вечнага.

1, 2 і 3 снежня мы, вернікі параф'яльнай парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, перажывалі надзвычай плённыя дні рэкалекцый, якія правёў у нашым касцёле **ксёндз з Докшыц Андрэй Букштан**. Словы святара, звернутыя да нас, неслі такую сэнсавую нагрузку і так уздзейнічалі на нашы думкі і пачуцці, што пакінулі глыбокі след у душы кожнага верніка. У мяне і, відавочна, не ў мяне адной з'явілася жаданне браць прыклад са святога Пятра, якому Езус загадвае выплысці на глыбіню. Пётр робіць так, як яму кажа Настаўнік, і мае багаты ўлоў, бо яму дапамагае паслухмянасць і вера.

А мы, грэшныя, слабыя людзі, ці ўмеем слухаць голас Божы? Ці заўсёды робім тое, да чаго кліча нас Пан Бог? Ці імкнёмся, вызнаўшы свае грахі, змяніцца да лепшага? Ці, можа, шукаем сабе апраўданне і лічым вінаватымі іншых? Ці ўзрастаем у веры, прыняўшы сэрцам маленькага Езуса, ці, перажыўшы светлы час Калядаў, вярнуўшыся да штодзённага жыцця, зноў паўтараем свае грахі?

“Выплысці на глыбіню” для мяне азначае “вызнаць глыбіню сваёй веры, усвядоміць свае грахі, імкнуцца да святасці, узрастаць духоўна”.

Хутка праміналі гэтыя тры дні рэкалекцый, але яны надоўга засталіся ў нашай памяці, абудзілі імкненне да штодзённага роздуму на Божым словам, над сваёй верай, думкамі і ўчынкамі.

**Паважаны ксёндз Андрэй!**

Прыміце ў знак падзякі гэтыя сціплыя вершаваныя радкі:

*Слухаць і ўспрымаць святое Слова,*
*Што прамовілі з натхненнем Вы да нас,*
*І асэнсаваць жыццё нанова*
*Кліча рэкалекцый слаўны час.*

*У чаканні нараджэння Збаўцы*
*Быць нераўнадушнымі, чуваць,*
*Толькі добрае рабіць старацца,*
*Крыўду бліжнім цалкам даравадь.*

*А душу перапаўнае ўдзячнасць*
*За святую праўду Вашых слоў,*
*За навукі глыбіню і значнасць.*
*Вам – пашана наша і любоў!*

*Вам – букет з найлепшых пажаданняў*
*У калядны светлы, слаўны час!*
*Няхай збудуцца ўсе планы, спадзяванні!*
*Будзем рады зноў паслухаць Вас.*

***З глыбокай павагай і шчырай удзячнасцю, Марыя Ючкавіч ад імя вернікаў параф'янаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаная рэдакцыя! Дазвольце павіншаваць Вас з нагоды Раства Хрыстова! Жадаем Вам здароўя, плённай працы і толькі добрых навін! Няхай захавае Госпад Сваёю ласкаю ўсё добрае, што нараджаецца ў нашых сэрцах.*

*А таксама дазвольце праз вашу газету павіншаваць* ***ксяндза Анджэя Бульчака*** *з Божым Нараджэннем.*

*Паважаны ксёндз Анджэй!*

*Дзякуем Пану Богу за тыя ласкі, якімі ён бласлаўляў Ваша жыццё і Ваша служэнне як ксяндза. Кожны вернік чашніцкай парафіі з задавальненнем успамінае тыя часы, калі супольная малітва аб'ядноўвала ўсіх католікаў Чашнічына.*

*У гэты святочны час жадаем Вам моцнага здароўя, радасці ў служэнні Богу і людзям, шчодрых дароў Духа Святога і душэўнага супакою!*

***З малітвай, вернікі чашніцкай парафіі***



## Хвала Хрысту! Паважаны ксёндз-пробашч Станіслаў Мжыглуд!



*Прыміце нашы шчырыя віншаванні і словы падзякі з нагоды Дня нараджэння! Вы – служыцель Божы і заўсёды знойдзеце спосаб накіраваць Вашых парафіян на шлях праўдзівы! Дзякуючы Вам, людзі становяцца дабрэй і памяркоўней адзін да аднаго, імкнуцца рабіць добрыя ўчынкі!*

***З павагай і ўдзячнасцю парафіяне Браслаўскага касцёла Нараджэння Маці Божай***



# Ёлачка з бразготкамі

**Нэля Лось**, *м. Лынтупы*

Сярэдзіна пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя была поўная цяжкіх выпрабаванняў для нашай сям'і. Сур'ёзна захварэла маці. Яна працавала настаўніцай у пачатковай школе. Хадзіла на працу за пяць кіламетраў у суседнюю вёску, прастудзілася. Запаленне лёгкіх адкінулася цяжкавылечнай хваробай – сухотамі. Пасля настойлівага хадайніцтва праз Чырвоны Крыж атрымала пуцёўку на паўгода ў Башкірыю для лячэння кумысам.

Мне было сем год, а брацiку каля шасці. Памятаю як сталі ўкленчыўшы перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай бацькі, як мама туліла нас да сябе, асцерагаючыся цалаваць. У таты па шчацэ адна за адной цяклі слязінкі, бы кроплі дажджу па аконных шыбах, што заліваў наваколле ў той змрочны лістападаўскі дзень маміната ад'езду. Засталіся мы з татам. На дапамогу прыходзіла бабуля Адэлька, якая жыла за вёскай на хутары. Тата працаваў у калгасе, за працадзень амаль нічога не плацілі. Без мамінай зарплаты звесці канцы з канцамі было няпроста. Карова ўжо не даілася, а кабанчыка калолі толькі перад калядамі. Можа трымалі б і двух, але існавала строгая забарона. Нават па хлявах цягалася спецыяльная камісія, каб выявіць «излишки». Каралі штрафам і канфіскацыяй жывёліны.

Надышоў Адвэнт. Засыпаная снегам зямля зацiхла ў чаканні вялікай падзеі – Божага Нараджэння. Нягледзячы на тое, што мама настаўнічала, накрывалі вігілійны стол з поснымі стравамі, з ахопкам сена, якім назаўтра бацька частаваў жывёлу. Гэта было свята цёплае, душэўнае, з багаццем хрысціянскіх традыцый – радасный сустрэчы прыходу ў гэты свет маленькага Езуса. З сардэчнымі пажаданнямі дабра і здароўя дзяліліся аплаткамі, мама з татам спявалі «Anioł pasterzom mówił...». Гэту мелодыю я памятаю да сённяшняга дня. Нам, малым, тлумачылі, што Божанька паслаў свайго Сына, каб мы любілі адно аднаго і даравалі крыўды.

У печы, патрэскваючы, гарэлі дровы, па пакоі плыў хваёвы пах ад прыбранай ёлкі і непаўторны водар антонаўкі, што ляжала ў кошыку пад ёй. Гэта былі цудоўныя дні!

Але на гэты раз матулі не было, а бабуля, наша памочніца, захварэла. Тата быў так заняты, што нават не паспеў прынесці з лесу ялінку. Куцця наша была вельмі сціплай: бульба ў шалупінні, капуста з агуркамі ды кавалачак мінулагодняй аплаткі.

Назаўтра прыйшоў брыгадзір і загадаў тату выйсці на работу. Мы засталіся адны і вырашылі ўпрыгожыць вялікі альяс ёлачнымі цацкамі, якія ў скрынцы сталі на шафе. Але разам са скрынкай зваліліся з лаўкі. А калі падняліся, то з жахам убачылі замест прыгожых шароў і шышак жменю рознакаляровага друзу. Нават два гусакі з ваты зламалі свае доўгія шыі. Так і знайшоў нас бацька спалоханых і заплаканых. Прыціснуўшы да грудзей ён як мог суцяшаў нас і паабяцаў абавязкова прынесці елку.

Два дні мы з братам былі цішэй вады, ніжэй травы. Прыйшла бабуля Адэля, выкупала нас у балейцы каля цёплай печы, напякла бліноў, згатавала квашаніну, стаўкла камы са шкваркамі. Гарэлкі бацька не піў, таму кісель з журавін быў самым запатрабаваным напоем за шчодрым святочным сталом.

Прачнуўшыся раніцай мы ўбачылі на заснежаным панадворку ёлку. Каля яе сталі Дзед Мароз і Снягурка. Апрануўшыся, хуценька выскачылі з хаты. Што гэта была за прыгажосць! На дрэве віселі розныя бутэлечкі – сінія, чырвоныя, зялёныя, рамачкі з паштоўкамі і нават нашы сандалікі. А на самай макаўцы быў замацаваны абразок Святой Сям'і ў гронках мёрзлай рабіны. Гірлянда з бразгуноў апярэзвала ёлку. Вецер гойдаў галінкі, і бразготкі мілагучна звінелі. Дзед Мароз і Снягурка аказаліся саламянымі снапамі ўздзетымі на калы і прыбранымі ў стары татаў кажух і маміна паліто. Марозава барада і снягурчына каса з ільнянога кужалю выглядалі так смешна на галовах з малочных збаноў, што бабця Адэля і мы з брацікам аж заходзіліся ад смеху. А потым тата вынес у сені патэфон і пад песні і прыпеўкі Русланавай, пад калядкі, якія спяваў тата граючы на мандаліне, мы скакалі да знямогі вакол ёлкі. А бабуля пляскала ў ладкі і крадком выцірала слёзы. На нейкі час нават прызабыліся, што ў хаце не пахне святочным печывам, а без мамы пуста і няўтульна.

Мама вярнулася ў сакавіку. Кумыс пайшоў ёй на карысць і наш дом не асірацеў. Яшчэ шмат розных святаў адзначалі мы ўсёй сям'ёй, але тое Божае Нараджэнне, сагрэтае адданай і вернай любоўю нашага татачкі, засталося ў маёй памяці як самае лепшае.

# ПАЗНАВАЙКА

## Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!



### Разблытай павуцінку

Калі разблытаеш павуцінку і запішаш па парадку, што атрымалася, даведаешся, хто першы наведаў Езуса, калі Ён нарадзіўся.




### Знайдзі адрозненні

У святочным калядным мяшэчку шмат падарункаў. Знайдзі 5 адрозненняў паміж двума мяшэчкамі. Што знойдзеш— абвядзі.



### Прачытай пажаданне на цацках

На ёлачцы вісяць прыгожыя святочныя цацкі з літарамі. Кожная цацка рознага колеру.У клетачках запішы па чарзе неабходныя літары, уважліва гледзячы на колер кожнай цацкі. Калі выканаеш заданне, убачыш што табе жадае "Пазнавайка" на Божае Нараджэнне!






### Напішы святочныя пажаданні

У таблічцы напішы пажаданні на Божае Нараджэнне для сваіх родных, блізкіх, сяброў і знаёмых!




### Знайдзі правільны адказ

У кожным пытанні схаваны адзін правільны адказ. Каля малюнка з правільным адказам стаў +.

Хто сказаў пастушкам, якія ноччу вартавалі свае статкі: "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, які ёсць Хрыстус Пан..."





Дзе нарадзіўся Езус?





Хто прынёс Дзіцятку Езусу ў падарунак золата, ладан і смірну?





Што паказвала шлях мудрацам з Усходу, якія прыйшлі пакланіцца нованароджанаму Езусу?





### Чаго не хапае?

Перад таблічкай ты бачыш усе неабходныя малюнкі. Ад іх праводзь стрэлкамі ў кожную пустую клетачку той элемент, якога не хапае.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Як скасаваць шлюб з былым мужам?

*“Хацелася б даведацца ўсё пра скасаванне шлюбу ў католікаў. Я з былым мужам брала шлюб амаль 15 гадоў таму ў касцёле Святога Станіслава ў в. Далёкія. Мы не жывём разам ужо больш за 10 гадоў і афіцыйна разведзеныя. Мой другі муж настойвае на разводзе, паколькі ён вернік (католік). Я звярталася ў свой касцёл і выказала сваю просьбу пісьмова, але ксёндз сказаў, што я не ўказала прычыну. На мой погляд, я ўсё ясна там напісала. Пра якія прычыны і здраду можна казаць, калі мы не жывём 10 гадоў разам? Можа, ёсць нейкі ўзор або анкета, як дакладна можна адказаць на пытанне? Для мяне вельмі важна зразумець, з чаго пачаць, згодная на любыя складанасці, абы вырашыць гэтае пытанне”.*

*Таццяна Шулья*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч, марыянін з Росіцы:**

– Шаноўная спадарыня Таццяна!

Здаецца, што толькі чалавек не зусім шчыры плануе развод у момант свайго шлюбу. Людзей, якія дапускаюць развод у выпадку цяжкасцей, што сустрэлі ў жыцці, ужо нашмат больш. Ёсць яны таксама і сярод вернікаў. Гэта сведчыць пра недастатковае разуменне таямніцы сакраманту шлюбу і ўзятых на сябе абавязкаў. Аднак большасць сужэнцаў вераць, што шлюб – гэта падзея непаўторная, а сувязі, якія ўзнікаюць на моцы гэтага сакраманту, непарыўныя. Пытанне пра “развод” у Касцёле заўсёды выклікае напружанні і перажыванні.

У Вашым пытанні ёсць схаваная прэтэнзія да святара: нібыта ён чагосьці не хоча зразумець або выстаўляе выдуманыя патрабаванні. Справа ў тым, што ў Касцёле няма паняцця “развод”, так як гэта разумее свецкае (дзяржаўнае) права і так, як, здаецца, разумееце Вы. Сапраўды, у ЗАГСе можна скласці заяву пра заканчэнне сужэнскага саюзу і атрымаць перад дзяржавай статус разведзеных. Але пастанаўленне ЗАГСа не мае юрыдычнай сілы для адмены прынятага сакраманту шлюбу. У Касцёле няма разводаў!!! Таму ані той факт, што Вы афіцыйна з мужам разведзеныя, ані тое, што 10 гадоў не жывяце разам, не з’яўляецца паводле касцельнага права аргументам. Фармальна на сёння, паводле слова Божага і права Касцёла, Вашым мужам з’яўляецца чалавек, з якім Вы бралі шлюб. Фактычна Вы жывяце ў несакраментальным саюзе з іншым мужчынам.

Касцёл у некаторых выпадках разглядае просьбы вернікаў, каб сцвердзіць, што іх шлюб з’яўляецца несапраўдным (быў заключаны з адступленнем ад нормаў). Напрыклад, Вы ўзялі шлюб з чалавекам, які папярэдне ўжо быў жанаты, але Вас пра гэта не праінфармаваў; Вас змусілі выйсці замуж; будучы муж схаваў ад Вас істотныя дадзеныя, напрыклад, пра тое, што мае псіхічную хваробу.

У выпадку Вашых сумневаў Вы як верніца канкрэтнай каталіцкай парафіі звяртаецеся да мясцовага пробашча і пасля размовы з ім запаўняеце першы дакумент. У Вашым выпадку, як з Вашага аповеду вынікае, ксёндз-пробашч не ўбачыў прычын для распачацця кананічнага працэсу. Таму каб канчаткова разабрацца са сваімі сумневамі, Вам трэба звярнуцца ў дыяцэзіяльны суд:

***вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў 28, 210032 г. Віцебск тэл: +375(212)61 68 61; sudvitebsk@gmail.com***



# Развažаем над Божым словам

**Развažанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 снежня 2016 г.**

***Ян 1, 1-5; 9-14***

Езус Хрыстус – спрадвечны Бог – з’яўляецца пачаткам усяго свету і пачаткам нашага існавання. Ян называе Яго ў сённяшнім Евангеллі “Словам”. Езус-Слова прыйшоў на свет, каб прынесці збаўленне. Але, на жаль, не ўсе Яго прынялі. Тыя ж, хто прыняў, сталі Божымі дзецьмі. Як прыняць Езуса? Тым больш, што гэта ўжо адбывалася, і не адзін раз. Напрыклад, у час хросту або калі прымалі Святую Камунію. Таксама не раз мы ўжо святкавалі Дзень Нараджэння Езуса. Аднак трэба яшчэ раз па-новаму (як падказвае нам святы Ян) паверыць у Яго. Вачыма веры ўбачыць прысутнасць Бога ў нашым жыцці, убачыць, як Яго хвала аб’яўляецца ўва мне і вакол мяне. Трэба захапіцца гэтым Божым дзеяннем, дзякаваць Яму і праслаўляць, тым самым умацоўваючы свой давер да Яго.

*– Ці прыняў я Езуса ў сваё жыццё?*

*– Ці часта кажу Яму: “Я люблю Цябе, Езу! Ты мой, а я Твой?”*

*– Магчыма, я ніколі так не казаў?*

*– Як я святкаваў Нараджэнне Хрыста ў мінулым?*

*– На што звяртаў сваю ўвагу найбольш: на атмасферу свята ці на Нованароджанага Езуса?*

*– Ці прыкладаю намаганні, каб убачыць поўную любові прысутнасць Езуса ў сваім жыцці?*

*– Ці заўважаю Божую дзейнасць на розных этапах свайго жыцця?*

*– Ці заўважаю, як Бог вядзе мяне праз жыццё?*

*– Як Яго мудрае слова перамяняла маё жыццё?*

*– Ці не прыпісваю ўсе заслугі і поспехі толькі сабе, быццам бы гэта я даў сам сабе жыццё і розум?*

*– Ці заўважаю і ці цаню любоў і дабрыню іншых людзей?*

*– Ці не маю праблем з заўважаннем дабрыні ў сабе, у людзях і нават у Бога?*

*– Ці малюся я малітвай падзякі? Як часта?*

*– Ці разважаю над Божымі справамі ў сваім жыцці?*

*– Будучы захоплены Богам, Яго мудрасцю і любоўю, ці малюся малітвай праслаўлення?*

**1 студзеня 2017 г.**

***Лк 2, 16-21***

Сёння мы яшчэ раз бачым у Евангеллі пастухоў, якія прыходзяць, каб расказаць, што пачулі ад анёла пра Нованароджанага Езуса. Марыя ўважліва слухае сказаныя словы, захоўвае іх у сваім сэрцы і разважае над імі. Яна пачула чарговую падказку пра справу, у якой удзельнічала як Святая Багародзіца. Не крыўдзіць Яе, што пра гэта Яна чуе ад простых пастухоў, а не асабіста ад анёла або першасвятароў, або прарокаў. Яна цэніць тое, што пачула ад Бога, і з пашанай і мудрым разважаннем вырошчвае сэнс гэтых слоў у сваім сэрцы. А словы вельмі сур’ёзныя: Езус – гэта Бог, Ён – чаканы Месія, Ён – Збаўца.

*– Ці ведаю я, да чаго паклікаў мяне Пан Бог?*

*– Як я выконваю сваё пакліканне вучня Езуса, мужа, жонкі, бацькі, маці?*

*– Ці шукаю на жыццёвай дарозе Божага слова, якое дапаможа зразумець, як ісці Божай дарогай?*

*– Ці не лічу часам сябе празмерна ўпэўненым і абазнаным, як і куды ісці? А можа, нават не хачу слухаць Бога?*

*– Можа, мне не падабаецца пасланец, якога Бог адправіў да мяне?*

*– Ці захоўваю Яго слова з належнай пашанай?*

*– Як разважаю над Божым словам: павярхоўна ці паглыбляючыся ў яго сэнс?*

*– Ці пачуў я, што Езус – мой Бог, мой Збаўца?*

**8 студзеня 2017 г.**

***Мц 3, 1-12***

Хрост Езуса ў Іардане – гэта знак, што Езус бярэ нашы грахі на свае плечы. Ён распачынае змаганне з грахом, які нас забівае. Такім чынам Бог у Найсвяцейшай Тройцы клапоціцца пра свой народ. Езус уцелавіўся і нарадзіўся, каб выратаваць нас. Праз сваю смерць і ўваскрашэнне Ён адкупіў нас ад грэху. Ён – наш Пан і Збаўца.

*– Ці бачу я свой грэх?*

*– Ці разумею, што грэх забівае ў нас любоў?*

*– Ці ведаю, што гэта дзеянне супраць любові?*

*– Ці шкадую, што шмат разоў стаптаў сваімі грахамі любоў?*

*– Ці прашу Бога аб прабачэнні?*

*– Ці часта і шчыра спавядаюся?*

*– Ці шукаю Божай волі, каб жыць паводле закону любові?*

*– Ці цаню, што Бог мне прабачае і дапамагае падняцца?*

*– Ці бачу Божае збаўчае дзеянне ў сваім жыцці?*

*– А можа, праз нежаданне навяртання не заўважаю Божай любові і ласкі збаўлення?*

*– Ці імкнуся ўзнагародзіць за зло, учыненае мной?*

*– Ці раблю дабро, згодна з Божай воляй?*

**15 студзеня 2017 г.**

***Ян 1, 29-34***

Езус-Збаўца прыйшоў на свет выратаваць чалавека ад бяды. Грэх забівае чалавека, знішчае падабенства да Бога Айца. Грэх забівае любоў. Чалавек мае ў наступствах першароднага граху схільнасць да зла. Іншы раз здаецца, што зло перамагае, а наша чалавечая натура канчаткова сапсаваная. Тым часам Езус стаў чалавекам і, як пасхальнае ягня, быў ахвяраваны Айцу, каб узнагародзіць за наша зло. Ён любіў дасканала і быў паслухмяны аж да смерці. Напоўнены Святым Духам, Ён ажыўляе Ім грэшны свет і вылівае на яго Сваю любоў.

*– Ці разумею, што мне патрэбны Збаўца?*

*– Ці дазваляю Богу ўдасканальваць мяне?*

*– Ці не лічу сябе бездакорным?*

*– Ці давяраю Езусу сваю бяду, слабасць і грэх?*

*– Ці размаўляю з Богам на малітве пра свае недахопы?*

*– Ці слухаю, што Ён пра гэта думае?*

*– Ці з’яўляецца для мяне Божае слова тым словам, якое хоча і можа ўмацаваць, падтрымаць, суцешыць?*

*– Ці дапамагаю Богу выратаваць іншых з няволі граху?*

*– Ці малюся за навяртанне грэшнікаў?*

*– Ці адкрыты я на натхненні Божага Духа?*

*– Ці супрацоўнічаю з Богам, Які натхняе мяне на дабро?*

*– Ці з’яўляюцца мае ўчынкі і словы знакам дзеяння Божага Духа для іншых?*

*– Ці будую разам з Езусам Божае Валадарства – Валадарства любові?*

*– Як гэта раблю?*

*Развažанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*



**У рэдакцыі “Каталіцкага Весніка” можна замовіць малітоўнік “Бог Добры”, які выдала Пінская дыяцэзія ў 2015 годзе.**

# Малітоўнік “Бог Добры”

У кнізе 36 літаній, Ютрань, нядзельныя Нешпары, малітвы ў падарожжы, на адправіне хлопца ў войска, на жаніцьбу, а таксама шмат старадаўніх малітваў за памерлых.

Пра сваю працу над выданнем малітоўніка распавядае **айцец Пётр Бялевіч**, місіянер-аблат: “Малітоўнік стварылі непрафесійнай групай з чатырох чалавек. Вырашылі зрабіць малітоўнік, які калісьці мелі нашы бабулі. Бо шмат разоў, калі я ездзіў па Беларусі, людзі пыталіся: а што ў вас за кніга, паказваючы на брэвіярый, а чаму ў вас так многа малітваў, а ў нас столькі няма? Людзі прасілі такі малітоўнік, дзе было б шмат малітваў. І я падумаў: а чаму сапраўды не зрабіць малітоўнік на ўсе выпадкі жыцця? Шукаць далёка не трэба было, бо старых кніжак хапае ў кожнага святара, праўда, большасць на польскай мове. Людзі прыносяць часам малітоўнікі ад сваіх памерлых бабуляў, кніжкі, якім сто або нават больш гадоў”.

Малітоўнік“Бог добры” – самы ёмісты ў Беларусі. Там сабраныя ўсе распаўсюджаныя і амаль забытыя малітвы, набажэнствы, спевы, характэрныя для Касцёла на нашых землях. **Аб’ём малітоўніка – больш за 1055 старонак.**

**Замовіць малітоўнік можна** ў рэдакцыі “Каталіцкага Весніка”, патэлефанаваўшы па нумары **+375 29 736 53 07** або даслаўшы запыт на электронны адрас: **katalickivesnik@gmail.com**




**Кошт малітоўніка – 15 руб.** Ён высылаецца накладзеным плацяжом праз Белпошту. Увага! Замоўца аплочвае ўсе выдаткі па перасылцы. Колькасць абмежаваная.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*




**Навіны з Ватыкана па-беларуску можна слухаць:**

Штодзённа а 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім.

Штодзённа а 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.

Штодзённа а 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”.

Кожную нядзелю а 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на канале “Культура” Беларускага радыё.

У інтэрнэце на старонцы vatican.by

**Дарагія сябры!**

**З’явілася новая магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланьць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”***

# Падзяка святару

**Хачу выказаць падзяку ксяндзу Вячаславу Пялінку. Але спачатку выбачаюся, што не зрабіў гэтага ў мінскім аэрапорце ў маі 2015 года.**

Дзякую за цудоўную пілігрымку ў Святую Зямлю, якую мы здзейснілі разам з ксяндзом Вячаславам. Гэта не забываецца!

А яшчэ хачу параіць тым, хто збіраецца ў пілігрымку з гэтым святаром, браць з сабой не толькі фотаапарат, але ў першую чаргу – дыктафон. Тыя казанні, якія ён гаварыў на гары Табор, на полі пастушкоў, на гары спакусаў, у Кане Галілейскай і іншых святых месцах проста ўражваюць!

Шчыра дзякую Вам, ксёндз Вячаслаў! Са святам Вас! Прыміце віншаванні таксама ад маёй жонкі, якая разам з Вамі адбыла пілігрымку ў Фаціму восенню 2013 года.

Ксёндз Вячаслаў спяваў калядныя песні на дзвюх мовах: два радкі на беларускай, а затым тыя ж самыя – па-польску. Як гэта прыемна было слухаць!

*Пётр Скрамблевіч, в. Каробчыцы (Гродзенскі р-н)*



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7801

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 22.12.2016 г. у 10.03

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь